ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№15 (2521)

10 красавіка 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

## ДАКУМЕНТ СВАЙГО ЧАСУ

### УСПАМІНЫ ІНЫ (МІХАЛІНЫ) БУЙЛО



Іна (Міхаліна) Буйло пражыла доўгае жыццё. І ўсё яно было цесна пераплецена з лёсам старэйшай сястры — паэтэсы Канстанцыі Буйло. Апынуўшыся пасля рэвалюцыі ў Маскве, Канстанцыя Антонаўна паступова перацягнула туды ўсіх сваіх блізкіх: бацьку, маці, сястру і брата. Іна перажыла сястру на некалькі гадоў. Смерць Канстанцыі была для яе вялікай стратай, з ёю канчаткова абарвалася нітачка, што звязвала яе з мінулым. Пакуль былі сілы, сёстры часта сустракаліся, іх шчырыя размовы былі неабходны абедзвюм. Яны падбадзёрвалі адна адну, бедавалі і жартавалі. У апошнія гады часта і падоўгу гутарылі па тэлефоне. Бываючы ў Канстанцыі Антонаўны, я абавязкова чула: "Доўга размаўляла з Інкай па тэлефоне. Яна мяне найлепш разумее. Я яе вельмі люблю".

Мы з Інай Антонаўнай былі знаёмыя завочна і перадавалі праз Канстанцыю Антонаўну адна адной прывітанні. Калі я пісала артыкул пра самую старэйшую з сясцёр Станіславу і трэба было ўдакладніць нейкія дэталі, Канстанцыя Буйло звярнулася да Іны Антонаўны, і яна прыслала вельмі цікавыя, добра напісаныя ўспаміны пра той перыяд свайго жыцця, калі яны абедзве — Стася і Міхаліна (Інай яе пачалі называць пазней, а па першаму пашпарту яна Міхаліна) апынуліся ў першую сусветную вайну ў акупіраваным немцамі Мінску і княгіня Радзівіл дала ім прытулак і працу, даведаўшыся, што яны сёстры паэтэсы Канстанцыі Буйло.

Сустрэлася ж я з Інай Антонаўнай пасля смерці Канстанцыі Антонаўны. Было лета, і яна жыла на станцыі Лугавая, пад Масквой, дзе доўгія гады працавала ў Інстытуце кармоў, часова нават узначальвала яго, яе тут памяталі і шанавалі як ветэрана і добрага сумленнага чалавека. У Іны Антонаўны балелі ногі (сямейная хвароба амаль усіх Буйлаў), яна амаль не ўставала з ложка, але была спакойная, добразычлівая, гаваркая, ахвотна і цікава расказвала пра бацькоў, маленства, любімую Костачку. Яе расказ быў такім яркім, поўным новых фактаў, што я міжволі ўсклікнула:

— Вось бы вы запісалі ўсё гэта.

— А я ўжо напісала, — адказала Іна Антонаўна. — Для ўнукаў пісала, а можа і яшчэ каго зацікавіць.

Тады і атрымала я два вучнёўскія сшыткі, спісаныя буйным, вуглаватым почыркам, так падобным на почырк Канстанцыі Буйло. Я адразу з захапленнем прачытала гэтыя запісы. Усё быццам знаёмае і ў той жа час столькі новых бясцэнных дэталяў. У іх упершыню дакладна прасочаны шлях, названы вёскі, па якіх вандравала гаротная сям'я Буйлаў, абставіны, у якіх яны жылі, перададзены дух любові, спагады, гордасці, уласцівы кожнаму з гэтых людзей.

У Іны Антонаўны засталася дачка, унучка і праўнукі. Дачка Людміла Гурына была блізкая і да Канстанцыі Буйло. Пасля яе смерці расказвала многа цікавага пра цётку, добра ведае і любіць яе творчасць. Усе яны не супраць, каб былі надрукаваны ўспаміны Іны Антонаўны. Мы ў рэдакцыі доўга думалі, як падаць іх. Дзённікі напісаны на рускай мове. Пры перакладзе яны, вядома, набудуць больш апрацаваны літаратурны выгляд. Аднак ці не згубіцца адметнасць, уласцівая гэтай незвычайнай працы, з якой відаць, што чалавек, які нарадзіўся ў Беларусі, але пражыў большую частку жыцця ў Маскве, так і застаўся беларусам. Ён ужывае словы, што запомніў у дзяцінстве, яму блізкае ўсё, што яго калісьці акружала. Я лічу гэтыя запісы дакументам, які адлюстроўвае падзеі і дух часу, пра які ў іх расказваецца. Таму і было вырашана пакінуць іх у тым выглядзе, у якім яны да нас трапілі.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКУ: Іна (МІХАЛІНА) БУЙЛО.**

**(Запісы І. Буйло "По пройденным дорогам" змешчаны на 6-й стар.).**

## МЯЖА ЯК ДЗІРАВАЯ КІШЭНЯ

### ХАЦЯ НАША ЗАКАНАДАЎСТВА НАЗЫВАЕ ГЭТА АДМІНІСТРАЦЫЙНЫМ МЫТНЫМ ПРАВАПАРУШЭННЕМ, ВА ЎСІМ СВЕЦЕ ТАКІЯ ДЗЕЯННІ НАЗЫВАЮЦЦА КАНТРАБАНДАЙ

Паколькі тэхнічная вытворчасць спірту вельмі танная, а ў любой дзяржаве цэны на спіртныя напіткі значна вышэйшыя за затраты на іх вытворчасць, алкаголь з'яўляецца асноўным прадметам эканамічнай кантрабанды. Да нядаўняга часу на прасторах СНД не існавала дзяржаўнай манаполіі на спіртное, і мноства арганізацый як дзяржаўных, так і прыватных мелі і маюць права на рэалізацыю гэтага тавару. Сёння цана за літр спірту складае ад васьмідзесяці цэнтаў да долара дваццаці цэнтаў. З аднаго літра спірту робіцца, як мінімум, два літры гарэлкі, а гэта, адпаведна, — чатыры бутэлькі, кожная коштам не менш двух долараў. Такім чынам, з аднаго долара атрымліваецца дзесяць, так што, трымаючыся савецкай стылістыкі, спірт з поўным правам можна назваць вадкім золатам. Уведзеная ў Расіі манаполія на гандаль спіртнымі напоямі рэзка актывізавала транзітны правоз спірту праз Беларусь, таму што падпольныя заводы існуюць па-ранейшаму, і новы закон на іх работу асабліва не паўплываў, наадварот, узрасла цана і стаўкі тых, хто забяспечвае нелегальны правоз. Прычым, даволі цікава прасачыць самі маршруты падарожжа спірту па прасторах СНД. Возьмем канкрэтны выпадак. У канцы мінулага года пагранічнікамі было затрымана 154 тоны спірту, які ішоў, згодна з дакументамі, з амерыканскага штата Вірджынія ў сонечную Малдову. Канцавы пункт маршруту наводзіў на думку аб самаварах, які невядома нашто вязуць у Тулу, і сведчыў, што пункт прызначэння гэтага тавару, хутчэй за ўсё, у іншым месцы. Уласна, так і аказалася: калі пагранічнікі сумесна з мытнымі органамі пачалі жорстка кантраляваць спірт, што ішоў транзітам, раптам высветлілася, што малдаўскі тавараатрымальнік адмовіўся ад прызначанага яму грузу, і спірт вярнуўся ў Літву. Ну а там адбываецца перагрузка, пераафармленне дакументаў і перапродаж цяпер ужо "чыстага" тавару. Канчатковая

(Працяг на 3-й стар.).

*АДУКАЦЫЯ: АРЫЕНТАЦЫЯ НА ЭЛІТУ?*

## НЕ ЗАКОПВАЦЬ ТАЛЕНТ У ЗЯМЛЮ

**У нашай краіне з-за эканамічных складанасцяў, як вядома, у першую чаргу цэрпяць так званыя бюджэтныя сферы — ахова здароўя, культура, навука, адукацыя. Ужо нікога не здзіўляюць скаргі настаўнікаў ці ўрачоў на маленькую заработную плату, адсутнасць нармальнага фінансавання бальніц, бібліятэк, тэатраў, разнастайных навучальных устаноў. Але і пры падобных абставінах краіна, грамадства, якія ўсё ж такі дбаюць пра сваю будучыню, не могуць, проста не маюць права пакінуць на волю лёсу выхаванне і адукацыю дзяцей, спецыяльную падтрымку асабліва здольных і таленавітых. Менавіта апошняя акалічнасць і стала тэмай размовы з Мікалаем ФЯСЬКОВЫМ, начальнікам Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Беларусі.**

— *Мікалай Сцяпанавіч, ці ёсць сёння магчымасць арганізоўваць асобную працу з дзецьмі, якія вылучаюцца сярод іншых сваімі выдатнымі здольнасцямі?*

— Адразу скажу: рабоце з таленавітымі дзецьмі надаецца вельмі і вельмі вялікая ўвага. Падтрымліваюцца алімпіяды ўсіх узроўняў і па ўсіх галінах ведаў. І нават калі з-за недахопу фінан-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ПА ЗАЛАХ СЛУЦКАГА КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ



**Слуцку, які мае амаль тысячагадовую гісторыю, ёсць што захоўваць у краязнаўчым музеі. У яго экспазіцыях — сівая даўніна і тое, чым горад можа ганарыцца сёння. На здымку Віктара СТАВЕРА — адзін са стэндаў Слуцкага краязнаўчага музея, дзе экспануюцца вырабы народнай творчасці.**

**(Заканчэнне фотарэпартажу на 5-й стар.).**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

# САЮЗ БЕЛАРУСІ І РАСІІ: ДАГАВОР ПАДПІСАНЫ

2 красавіка быў падпісаны ў маскоўскім Крамлі дагавор аб беларуска-расійскім Саюзе. Напярэдадні вечарам у расійскую сталіцу прыбыў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Ён прыехаў у Маскву на дзень раней у сувязі з неабходнасцю сустрэчы з Барысам Ельцыным, якая і адбылася раніцай 2 красавіка. Пасля яе адкрылася пасяджэнне Вышэйшага Савета Супольніцтва.

Адкрываючы пасяджэнне, А. Лукашэнка адзначыў, што галоўнай тэмай размовы на Савеце будзе дагавор аб стварэнні Саюза. Для Беларусі збліжэнне з Расіяй альтэрнатывы не мае. Гэта асаблівы выбар нашага народа. І мы будзем прытрымлівацца яго, спадзеючыся на разуменне і падтрымку расійскага кіраўніцтва, сказаў А. Лукашэнка. Паводле яго слоў, Беларусь ідзе з адкрытым сэрцам на падпісанне гэтага дагавора, які павінен вывесці беларуска-расійскія адносіны на якасна новы ўзровень. Яго падпісанне, лічыць Прэзідэнт, адпавядае духу і патрабаванням часу, агульнасусветным тэндэнцыям, міждзяржаўнай і эканамічнай інтэграцыі. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што саюз паміж Беларуссю і Расіяй будуецца не толькі для пераадолення цяперашніх крызісных з'яў, але і як трывалы фундамент будучага развіцця дзвюх дзяржаў.

Выступіў на Савеце і Барыс Ельцын, які адзначыў, што ўжо год існуе Супольніцтва Беларусі і Расіі. Расіяне і беларусы падтрымалі курс на інтэграцыю, і цяпер границы паміж двума народамі застаюцца толькі на карце. Зроблены захады, каб прывесці да адной роўніцы прававую сістэму. І ўсё ж грамадзяне Расіі і Беларусі атрымалі менш, чым чакалася. Давала аб сабе знаць недакладнасць некаторых палажэнняў. "Жыццё падштурхнула нас да дагавора аб Саюзе", — сказаў Ельцын.



Паводле яго слоў, гэта не будзе адзіная дзяржава. І Расія, і Беларусь захоўваюць свой суверэнітэт, у той жа час яны выходзяць на якасна новы ўзровень узаемаадносінаў. Дагавор дасць новыя правы грамадзянам абедзвюх дзяржаў: свабоду перамяшчэння, валодання маёмасцю, выбіраць і быць выбранымі ў органы кіравання тым грамадзянам, якія пастаянна жывуць на тэрыторыі адной з дзвюх дзяржаў. Новы дагавор узмоцніць і сацыяльныя гарантыі. А асновай яго будзе эканамічная частка. Беларуская індустрыя стане высокатэхналагічным партнёрам Расіі. Кааперацыя беларускіх і расійскіх вытворцаў дапаможа хутчэй пераадолець крызісныя з'явы. Што датычыць адзінай валюты, то тут, паводле слоў Ельцына, ілюзій быць не павінна. Для яе ўвядзення трэба зрабіць яшчэ вельмі і вельмі многае.

Ён заявіў і аб тым, што бюджэт Саюза будзе разлічаны толькі на сумесныя праграмы і ніякія дадатковыя фінансавыя затраты на ўтрыманне органаў Саюза не запатрабуюцца. Ельцын таксама адзначыў, што дагавор адкрыты для далучэння іншых дзяржаў СНД.

А першай гадзіне дня па маскоўскім часе Прэзідэнты дзвюх дзяржаў А. Лукашэнка і Б. Ельцын падпісалі Дагавор аб Саюзе Беларусі і Расіі. Акрамя таго яны парафіравалі Статут Саюза Беларусі і Расіі, а таксама падпісалі мемарандум аб узаемаразуменні па пытанню аб дапрацоўцы і прыняцці Статута.

Як адзначыў перад падпісаннем кіраўнік беларускай дзяржавы, стварэнне беларуска-расійскага Саюза не ёсць процілпастаўленне СНД. Саюз адкрыты для іншых дзяржаў Садружнасці. Розныя хуткасці інтэграцыі, на яго думку, — адзіная магчымасць удыхнуць новае жыццё ў СНД.

Статут Саюза Беларусі і Расіі па рашэнню двух прэзідэнтаў будзе вынесены на ўсенароднае абмеркаванне як у Расіі, так і ў Беларусі. Гэта абмеркаванне адбудзецца ў маі гэтага года.

"Галоўнае прызначэнне Саюза — паляпшэнне жыцця нашых грамадзян", — заявіў А. Лукашэнка.

Барыс Ельцын выказаў упэўненасць, што абсалютная большасць грамадзян Расіі і Беларусі адчуваюць радасць і надзею, хоць ніхто не мае ілюзій, што стварэнне Саюза аўтаматычна вырашыць усе праблемы. Расійскі прэзідэнт адхіліў сцвярджэнні тых, хто заяўляў, што дагавор слабы, што ён нанясе ўрон суверэнітэту і эканоміцы дзвюх дзяржаў. Дагавор выверааны, адпавядае міжнародным стандартам і інтарэсам абедзвюх краін, падкрэсліў Б. Ельцын. Ён паведаміў таксама, што 2 красавіка ў ходзе пасяджэння Вышэйшага Савета Супольніцтва Расіі і Беларусі зацверджана праграма сумесных эканамічных рэформаў, узгодненых дзеянняў у знешняй палітыцы, ваенным будаўніцтве, ахове граніц.

# ДАГАВОР АБ САЮЗЕ БЕЛАРУСІ І РАСІІ

**Расійская Федэрацыя і Рэспубліка Беларусь, зыходзячы з духоўнай блізкасці і агульнасці гістарычнага лёсу сваіх народаў, абапіраючыся на іх волю да далейшага яднання, імкнучыся эфектыўна выкарыстоўваць матэрыяльны і інтэлектуальны патэнцыялы Расіі і Беларусі ў інтарэсах іх сацыяльнага і эканамічнага прагрэсу, дзейнічаючы ў адпаведнасці з асновамі канстытуцыйнага ладу Бакоў і агульнапрызнанымі прынцыпамі і нормамі міжнароднага права,**

**грунтуючыся на Дагаворы аб утварэнні Супольніцтва Расіі і Беларусі ад 2 красавіка 1996 года і развіваючы яго палажэнні ў мэтах дасягнення дзейснай інтэграцыі ў эканамічнай і іншых сферах грамадскага жыцця,**

**дагаварыліся аб ніжэйпададзеным.**

### АРТЫКУЛ І

Супольніцтва Расіі і Беларусі пераўтвараецца ў Саюз з надзяленнем яго паўнамоцтвамі згодна са Статутам Саюза.

Кожная дзяржава — удзельніца Саюза захоўвае дзяржаўны суверэнітэт, незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць, Канстытуцыю, дзяржаўны сцяг, герб і іншыя атрыбуты дзяржаўнасці.

### Артыкул 2

Мэтамі Саюза з'яўляюцца:

умацаванне адносінаў брацтва, дружбы і ўсебаковага супрацоўніцтва паміж Расійскай Федэрацыяй і Рэспублікай Беларусь у палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай, ваеннай, навуковай, культурнай і іншых галінах;

павышэнне ўзроўню жыцця народаў і стварэнне спрыяльных умоў для ўсебаковага гарманічнага развіцця асобы;

устойлівае сацыяльна-эканамічнае развіццё дзяржаў — удзельніц Саюза на аснове аб'яднання іх матэрыяльнага і інтэлектуальнага патэнцыялаў, выкарыстання рынкавых механізмаў функцыянавання эканомікі;

збліжэнне нацыянальных прававых сістэм, фарміраванне прававой сістэмы Саюза;

забеспячэнне бяспекі і падтрыманне высокай абараназдольнасці, сумесная барацьба са злачыннасцю;

садзейнічанне забеспячэнню агульнаеўрапейскай бяспекі і развіццю ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва ў Еўропе і свеце.

### Артыкул 3

Неад'емнай часткай гэтага Дагавора з'яўляецца Статут Саюза.

### Артыкул 4

У гэты Дагавор і Статут Саюза могуць уносіцца па ўзаемнай згодзе Бакоў змяненні і дапаўненні, якія падлягаюць ратыфікацыі.

### Артыкул 5

Гэты Дагавор не закранае правоў і абавязацельстваў Бакоў па іншых міжнародных дагаворах, удзельнікамі якіх яны з'яўляюцца, і не накіраваны супраць трэціх дзяржаў.

### Артыкул 6

Дагавор аб утварэнні Супольніцтва Расіі і Беларусі ад 2 красавіка 1996 года, раней прынятыя органамі Супольніцтва нарматыўныя прававыя акты працягваюць дзейнічаць у частцы, якая не супярэчыць гэтаму Дагавору.

### Артыкул 7

Гэты Дагавор адкрыты для далучэння да яго іншых дзяржаў, якія з'яўляюцца суб'ектамі міжнароднага права, якія падзяляюць мэты і прынцыпы Саюза і прымаюць на сябе ў поўным аб'ёме абавязацельствы, што вынікаюць з Дагавора і Статута. Далучэнне ажыццяўляецца са згоды дзяржаў-удзельніц.

### Артыкул 8

Гэты Дагавор і Статут Саюза, падпісаныя кіраўнікамі дзяржаў-удзельніц, падлягаюць ратыфікацыі і ўступаць у сілу з даты абмену ратыфікацыйнымі граматамі.

Гэты Дагавор з'яўляецца бестэрміновым. Любы з Бакоў можа выйсці з яго, паведаміўшы аб гэтым у пісьмовай форме другой дзяржаве-ўдзельніцы за 12 месяцаў да выхаду.

### Артыкул 9

Гэты Дагавор рэгіструецца ў адпаведнасці з артыкулам 102 Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

***Аформлена ў г. Маскве 2 красавіка 1997 года ў двух экземплярах, кожны на рускай і беларускай мовах, прычым абодва тэксты маюць аднольkавую сілу.***

# МЕМАРАНДУМ

## АБ УЗАЕМАРАЗУМЕННІ ПАМІЖ РЭСПУБЛІКАЙ БЕЛАРУСЬ І РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫЯЙ ПА ПЫТАННЮ АБ ДАПРАЦОЎЦЫ І ПРЫНЯЦЦІ СТАТУТА САЮЗА БЕЛАРУСІ І РАСІІ

**У мэтах выяўлення і ўліку думкі насельніцтва, дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў, удасканалення зместу тэксту Статута Саюза Беларусі і Расіі, правядзення арганізацыйных мерапрыемстваў па ўтварэнню Саюза ў адпаведнасці з артыкулам 2 Дагавора аб Саюзе Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1997 года Рэспубліка Беларусь і Расійская Федэрацыя дасягнулі наступнага ўзаемаразумення:**

**1. Распрацаваны праект Статута Саюза Беларусі і Расіі адабраецца Бакамі і выносіцца на абмеркаванне грамадзян Рэспублікі Беларусь і грамадзян Расійскай Федэрацыі.**

**2. Падпісаны Дагавор аб Саюзе Беларусі і Расіі і праект Статута Саюза Беларусі і Расіі ў дзесяцідзённы тэрмін з моманту падпісання гэтага Мемарандума публікуюцца Бакамі ў афіцыйных друкаваных выданнях.**

**3. Для абагульнення вынікаў усенароднага абмеркавання Бакі ў дзесяцідзённы тэрмін з дня падпісання гэтага Мемарандума ствараюць сумесную камісію, сустаршынямі якой з'яўляюцца з Беларускага Боку — Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь М. У. Мясніковіч, з Расійскага — намеснік Старшыні Урада Расійскай Федэрацыі В. М. Сяроў.**

**4. Усенароднае абмеркаванне праекта праводзіцца з дня яго апублікавання да 15 мая 1997 года.**

**Белтэлерадыёкампанія, ГРТ, УДТРК, радыёстанцыя "Маяк" на працягу гэтага часу кожная прадастаўляе па аўторках і чацвяргах ва ўзгоднены з сумеснай камісіяй час па 30 мінут для Беларускага і Расійскага Бакоў для абмеркавання праекта Статута Саюза Беларусі і Расіі.**

**Рашэнне арганізацыйных пытанняў, звязаных з усенародным абмеркаваннем праекта Статута Саюза ў вышэйназваных сродках масавай інфармацыі, вызначаецца сумеснай камісіяй (М. У. Мясніковіч, В. М. Сяроў, В. Б. Юмашаў).**

**5. Сумесная камісія падводзіць вынікі ўсенароднага абмеркавання і абагульнения яго вынікі прадстаўляе Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі да 20 мая 1997 года.**

**6. Узгоднены Прэзідэнтамі Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі праект Статута Саюза Беларусі і Расіі прадстаўляецца на разгляд Вышэйшага Савета Супольніцтва Беларусі і Расіі да 25 мая 1997 года.**

**7. Статут Саюза Беларусі і Расіі ўносіцца Прэзідэнтамі Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі на падпісанне і падлягае ратыфікацыі разам з Дагаворам аб Саюзе Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1997 года.**

**8. Гэты Мемарандум уступае ў сілу з дня яго падпісання.**

***Аформлена ў г. Маскве 2 красавіка 1997 года ў двух экземплярах, кожны на рускай і беларускай мовах, прычым абодва тэксты маюць аднольkавую сілу.***

ЧАРНОБЫЛЬ




**34 населеныя пункты спынілі сваё існаванне ў Нараўлянскім раёне пасля чарнобыльскай трагедыі, а людзей бяда разнесла ў розныя бакі. Напамінкам аб трагедыі і людскім болю з'яўляецца манумент, узведзены ў памяць аб выселеных вёсках, у раённым цэнтры на высокім беразе Прыпяці, дзе высечаны іх назвы.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# МЯЖА ЯК ДЗІРАВАЯ КІШЭНЯ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

мэта такіх складаных маніпуляцый — імкненне не плаціць падаткі, пошліны і акцызныя зборы, што даволі часта ўдаецца зрабіць. Бывае, што гэтыя грузы маскіруюць пад тавары, якія не абкладаюцца таможнымі пошлінамі ці пошліны на іх невысокія. Напрыклад, нізкаякасныя будматэрыялы, прадукты харчавання накштальт дзіцячага малака. Быў выпадак, калі ў цыстэрне, афармленай як груз алею, на самай справе быў спірт.

Яшчэ адзін устойлівы прадмет эканамічнай кантрабанды — цыгарэты. Сёння практычна палова імпарту цыгарэт у Беларусь ажыццяўляецца кантрабандным шляхам, і з 16 мільярдаў цыгарэт, якія выкурваюць кожны год беларускія курцы, не менш васьмі мільярдаў паступаюць у краіну нелегальна. Уяўленне аб маштабах кантрабанды даюць такія лічбы: у лістападзе 1996 года на ўчастку Гродзенскага атрада было затрымана 185 скрынь цыгарэт на суму капя 700 мільёнаў рублёў. У студзені гэтага года на КПП Казловічы быў затрыманы грузавы аўтамабіль з паўпрычэпам, што належаў галандскай фірме, дзе пад задэклараваным шпалерным клеем былі схаваны цыгарэты на суму 4 мільярды рублёў... Пасля гандлю зброяй і наркотыкамі кантрабанда спірту і цыгарэт — самы даходны бізнес. А па сутнасці, уся эканамічная злачыннасць зводзіцца да аднаго: як абысці падаткі. У супрацоўніцтве са службай АСАМ падатковай інспекцыяй былі раскрыты махінацыі ў сферы рэалізацыі халадзільнікаў мінскім заводам "Атлант". З дапамогай сеткі падстаўных фірм злачынцы атрымлівалі тавар нібыта для рэалізацыі ў Латвіі, а на самай справе халадзільнікі рэалізоўваліся на тэрыторыі рэспублікі. Гэта давала магчымасць не плаціць падаткі і мытныя зборы і атрымліваць немалы даход. У выніку расследавання прадухілена нанясенне ўрону на суму больш мільёна долараў.

Па-ранейшаму захоўваецца попыт на метал, які вязуць у асноўным у Прыбалтыку. Так, у пачатку года на аб'язной дарозе па-за пунктам пропуску былі затрыманы трое грамадзян Літвы, якія спрабавалі незаконна вывезці з Беларусі 598 кілаграмаў лому нержавеючай сталі і 18 кілаграмаў лому медзі. Вязуць метал і праз беларуска-польскую мяжу. Так, у пункце пропуску "Брэст-Цэнтральны" ў поездзе Масква — Варшава ў бялізнавым адсеку вагона былі знойдзены металічныя вырабы. У поездзе Масква — Берлін у тайніку, размешчаным у стойцы бара вагона-рэстарана, было выяўлена шэсць пакетаў з рэдказямельным металам кобальтам. Злёгку суцяшае той факт, што метал, які затрымліваюць на тэрыторыі Беларусі, вязуць у асноўным транзітам альбо з Украіны, альбо з Расіі. Увогуле ж, апошнім часам менавіта з тэрыторыі Украіны ажыццяўляецца вельмі значны ўвоз наркотыкаў і спірту. Літаральна днямі на беларуска-украінскай мяжы ў двух выпадках затрымана больш тысячы літраў спірту, які нелегальна ўвозіўся на тэрыторыю Беларусі. Усё лагічна: ёсць дзве незалежныя дзяржавы, ёсць розніца ў цэнах на тавары і прадукты, і ёсць мяжа, якая практычна не ахоўваецца. Там прысутнічаюць мытнікі, якія стаяць у пунктах пропуску і кантралююць тых, хто законна перасякае мяжу, але праведзеная пагранічнікамі аперацыя "Рубеж-96" і мерапрыемствы, якія праводзіцца сёння, паказваюць, што кантроль практычна адсутнічае. Між тым, Расія ўжо пачала прымаць меры па барацьбе з кантрабандай, што ідзе з Беларусі. Так, у Смаленскай вобласці ўведзена пагранічная зона і наладжаны мытны кантроль. Аднак гэта, здавалася б, аднаznачная сітуацыя мае два бакі. Прыкладна 80 працэнтаў прадуктаў харчавання, якія сёння спажывае Масква, — імпартнай вытворчасці і, адпаведна, набываецца за валюту. Беларуския ж прадукты, ды і не толькі яны, значна таннейшыя, а таму існуе пагроза, што беларускія стыхійныя пастаўкі могуць аказаць уплыў на ўжо існуючы рынак, тым больш, што з бюджэту Масквы выдзелены на гэтыя закупкі значныя сумы валюты. Так што ўведзены Расіяй таможны кантроль можна разглядаць не толькі як меры па абароне расійскага рынку, але і як абарону пэўнымі расійскімі групоўкамі сваіх фінансавых інтарэсаў.

Творы мастацтва і прадметы рэлігійнага культу за мяжу везлі заўсёды, але апошнія гады два назіралася некаторае зацішша, якое наводзіла на думку, што ўсе іконы з Расіі ўжо вывезены. Аднак літаральна апошнія паўгода кантрабандысты актывізаваліся, і партыі незаяўленых прадметаў даўніны затрымліваюцца практычна штотыднёва. Паўмесяца назад было затрымана 14 ікон, тыдзень назад яшчэ 12 ікон і іншых прадметаў культу. Як правіла, гэта транзіт з Расіі, арганізаваны пецярбургскімі і маскоўскімі групоўкамі.

Грашаць кантрабандай і чаўнакі. Апошнім часам яны вельмі актыўна вязуць ікру. Так, партыю з 260 бляшанак ікры знайшлі ў поездзе Саратаў — Берлін, надаўна выяўлена яшчэ 140 бляшанак... Хаваюць яе памайстэрску і віртуозна людзі, якія добра ведаюць асаблівасці траспартных сродкаў і псіхалогію тых, хто будзе кантрабанду шукаць.

Рэгулярна затрымліваюцца і радыеактыўныя рэчывы. Грошы хоць і не пахнуць, але выпраменьваць радыяцыю могуць, як і ўсе астатнія прадметы. На кантрольным пункце "Варшаўскі мост" былі затрыманы трое грамадзян Расіі на аўтамабілі "Джып — Міцубісі", які выпраменьваў павышаны радыеактыўны фон. Дазіметрычны кантроль устанавіў, што крыніцай радыяцыі з'яўляюцца тры пачкі па 10 000 долараў ЗША. Па словах камерсантаў, грошы былі набыты праз выпадковага знаёмага ў Маскве. Днямі з'явілася паведамленне, што гэтыя долары мелі багатае крымінальнае мінулае, а вось адкуль узяўся радыеактыўны фон, яшчэ не высветлена.

З вышэйсказанага можна зрабіць вывад, што дыяпазон кантрабандных тавараў вельмі вялікі. У мінулым годзе былі спробы вывазу ў абход таможні прадуктаў нафтаперапрацоўкі. Нелегальна вывозіцца сыравіна, а назад гэтак жа нелегальна ўвозіцца ўжо готовая мэбля, нават труны, зробленыя з беларускага дубу.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

# НЕ ЗАКОПВАЦЬ ТАЛЕНТ У ЗЯМЛЮ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

савання ад нечага мы вымушаны адмаўляцца, то толькі не тут, дзе імкнемся знаходзіць матэрыяльнае забеспячэнне на максімальна магчымым для нас узроўні.

*— Такім чынам, алімпіяды не пераслалі праводзіцца?*

— Канешне, не.

Раней на міжнародным узроўні Беларусь брала ўдзел у складзе зборнай Савецкага Саюза, пазней самастойна. Хаця былі выпадкі, калі не атрымлівалася адправіць поўную каманду, напрыклад, у Аргенціну ці Бразілію з-за недахопу грошай: вельмі ўжо далёка, дорага каштуюць білеты. Але апошнія два гады імкнемся любымі сродкамі забяспечыць фінансаванне падобных мерапрыемстваў па поўнай праграме. Часам звяртаемся па дапамогу да спонсараў, але летась абышліся ўласнымі сіламі, хаця, напрыклад, алімпіяда па матэматыцы праходзіла таксама не ў блізкім свеце — у Індыі, у Бамбеі. Сёлета матэматыкі збіруцца ў Аргенціне, алімпіяда па хіміі і фізіцы адбудзецца ў Канадзе, па інфарматыцы — у ЮАР, па экалогіі — у Турцыі і Германіі. І ва ўсіх мы бяром удзел. Ужо зроблены неабходныя ўзносы, запланаваны патрэбныя грошы.

*— А вынік гэтых намаганняў?*

— Вельмі ндрэнны. Напрыклад, летась нашы дзеці на міжнародных алімпіядах атрымалі 9 залатых, 9 сярэбраных і 11 бронзавых медалёў. Калі б падводзілася каманднае першынство, мяркую, Беларусь трапіла б нават у тройку лепшых.

*— Чым вы тлумачыце такія выдатныя поспехі? Здавалася б, умовы не спрыяюць...*

— Ведаеце, усё гэта не выпадкова. Узровень нашай адукацыі, якая мае выразна акадэмічны характар, навучальныя праграмы па зместу застаюцца самымі напоўненымі фактычнымі матэрыялам. У даным выпадку гэта становіцца адбіваецца на падрыхтоўцы асабліва здольных дзяцей. Але не буду ўтойваць: тут крыецца і адмоўны момант. Бо праграмы уніфікаваныя, абавязковыя для ўсіх. Вось чаму, уласна кажучы, мы і збіраемся рэфармаваць школу. Адзін з накірункаў маючых адбыцца перамен якраз і прадугледжвае ўвядзенне некалькіх стандартаў, некалькіх узроўняў навучальных праграм, у залежнасці ад здольнасцей і магчымасцей вучняў.

*— Ваш вопыт паказвае, што найбольшую колькасць таленавітых вучняў рыхтуюць, так бы мовіць, элітарныя школы — ліцэі, гімназіі?*

— Так, часцей за ўсё ўдзельнікі разнастайных алімпіяд і турніраў — навучэнцы такіх школ. Але нейкую спецыяльную "алімпіядную" падрыхтоўку мы не праводзім. Проста выбіраем лепшых.

*— Значыць, ніякай "селекцыйнай" працы не вядзецца?*

— Не.

*— Ці не затухаюць гэтыя таленты, сутыкнуўшыся з жыццём?*

— Звычайна, не. Прынамсі, яны застаюцца лепшымі студэнтамі ў вышэйшых навучальных установах, куды іх прымаюць з вялікім задавальненнем на льготных умовах, а то і ўвогуле без уступных экзаменаў. Дарэчы, не толькі дома, але і, скажам, у Маскве.

*— Мікалай Сцяпанавіч, а як наконт вясковых самародкаў?*

— Тут, на жаль, ёсць праблемы: пакуль тая сетка навучальных устаноў новага тыпу, што ёсць, на належным узроўні не задавальняе патрэбы сельскіх дзяцей. Гэта непакоіць. Але мы працуем і ў працэсе рэфармавання школы плануем ліквідаваць гэты дысбаланс. У раённых цэнтрах, вялікіх населеных пунктах будуць ствараца ліцэйскія класы.

*— І адпаведныя педагагічныя кадры знойдуцца?*

— Праблема не столькі ў кадрах, колькі ў сацыяльна-эканамічным становішчы краіны.

Хачу дадаць: акрамя алімпіяд у нас праводзяцца іншыя мерапрыемствы — турніры юных фізікаў, матэматыкаў. Вялікая работа вядзецца завочнай фізіка-матэматычнай школай. Яна якраз у першую чаргу і разлічана задаволіць патрэбы тых, хто не можа дазволіць сабе прыехаць на падрыхтоўчыя курсы ў сталіцу ці абласны цэнтр. Там у нас тысячы чалавек, усе яны занесены ў памяць камп'ютэра. Таксама імкнемся разнастаіць формы ўдзелу нашых дзяцей у міжнародных турнірах, канферэнцыях. Напрыклад, ужо чацвёрты год матэматыкі спаборнічаюць у міжнародным турніры "Кенгуру" ў Францыі.

*— Ну добра, гэта ўсё галіны, дзе можна абысціся без асаблівых матэрыяльных затрат — была б светлая галава, уважлівы настаўнік, кнігі, папера і ручка. А мастацкая творчасць? Як тут складваюцца справы? Здавецца, шматлікія гурткі мінулых часоў закрываюцца, а тыя, што застаюцца, робяцца платнымі?..*

— Я б не сказаў, што яны закрываюцца. Наадварот, прымаюцца захады, каб захаваць усе пазашкольныя ўстановы. Многія з іх утрымліваюцца за кошт дзяржбюджэту. Хаця ёсць і такія, дзе бацькі ўносяць плату.

Да таго ж, у нас працуюць так званыя спецыялізаваныя агульнаадукацыйныя школы з мастацкім ухілам. Іх на Беларусі многа, і падрыхтоўка там таксама выдатная: навучэнцы і выпускнікі такіх навучальных устаноў выступаюць на сапраўды прафесіянальным узроўні, яны лаўрэаты многіх конкурсаў — музычных, мастацкіх, харэаграфічных.

*— Мікалай Сцяпанавіч, такая актыўная скіраванасць на атрыманне званняў, медалёў... Ці не пераходзіць усё гэта ў...*

— ...самамэту? Мы выдатна разумеем, што нават калі заваяваць усе магчымыя медалі — гэта яшчэ не будзе паказчыкам добрай работы ўсёй школы. Астатнія вучні таксама не павінны заставацца без увагі. Тым больш, што ўвогуле апошнім часам цікавасць да вучэбнай дзейнасці расце. І гэта абнадзейвае.

Сапраўды так: прыкладаецца нямала намаганняў, каб цяперашняе пакаленне моладзі не наракала на сваю "згубленасць". Але відавочна (і жыццё падказвае), што даецца гэта нялёгка і рабіць усё ж такі трэба больш. Бо хацелася б, каб па-першае, словаспалучэнне "новы беларус" страціла свае крыўднае двукоссе і набыло нармальны сэнс, дзе новы — значыць лепшы, больш таленавіты, больш здольны, больш разумны, а, па-другое, каб гэтыя таленты, здольнасці і розум былі адпаведна ацэнены і скарыстаны, прычым не дзе-небудзь за межамі і акіянамі, а тут, дома, на Беларусі.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

Беларусізацыя 20-х гадоў цалкам пацвердзіла гэта. Калі беларуская мова знаходзілася ў самым зеніце, тады найлепш за ўсё адчувалі сябе і мовы нацменшасцей рэспублікі. А калі ў выніку сталінскіх рэпрэсій пачаўся спад сацыяльнай ролі беларускай мовы, не змаглі ўтрымацца на сваіх пазіцыях на тэрыторыі нашай рэспублікі яўрэйская і польская мовы.

Абвясціўшы беларусізацыю афіцыйнай палітыкай, дзяржава своечасова, самым сур'ёзным чынам паклапацілася аб стварэнні эфектыўнай сістэмы кіравання ёю, прыцягненні да гэтай справы шырокага кола актывістаў. Практычна ўся работа па беларусізацыі была сканцэнтравана ў руках створаный у адпаведнасці з прынятай у 1924 годзе Прэзідыумам ЦВК БССР пастановай Камісіі па ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі ЦВК БССР, на чале якой стаяў вядомы ў рэспубліцы дзяржаўны дзеяч А. Хацкевіч. Аналагічныя камісіі былі створаны пры акруговых выканаўчых камітэтах. Сталымі штатнымі работнікамі як цэнтральнай (рэспубліканскай), так і акруговых камісій па ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі былі толькі іх адказныя сакратары. Выкананне ж усёй

### ІНТЭГРАВАЦЦА Ў БЕЛАРУСКУЮ КУЛЬТУРУ

Цалкам апраўдала сябе на практыцы, што пры правядзенні беларусізацыі партыйныя і савецкія органы рэспублікі належную ўвагу надавалі ўцягненню ў актыўную стваральную дзейнасць на карысць беларускай справы і асобаў небеларускай нацыянальнасці. За сцілы тэрмін многія з іх аваподалі беларускай мовай, вывучылі гісторыю, пазнаёміліся з культурай, асаблівасцямі нашага краю. Беларусізацыя 20-х гадоў дала багата прыкладаў плённай работы вялікай арміі прадстаўнікоў рускай, польскай, яўрэйскай, украінскай, татарскай і іншых нацыянальнасцей на ніве беларускай культуры.

Блізкай і дарагой паводле сваіх мэтаў стала беларусізацыя для ўраджэнца Малдавіі Пятра Бузука (1891—1938). Прафесарам філалогіі ў БДУ ён пачаў працаваць з 1925 года, калі яшчэ толькі набывала размах беларусізацыя і на яе шляху стаяла шмат перашкод. На пераадоленне іх і была скіравана ўся дзейнасць таленавітага мовазнаўца ў час, калі ён загадваў дыявала і беларусаў, як карэннае насельніцтва, стала дбаць пра задавальненне ўсіх іх жыццёва важных патрэбаў. Між іншым, такое вынікала з самога характару палітыкі беларусізацыі і паслядоўна праводзілася ў жыццё. Сведчыць пра гэта і раздзел "Хроніка жыдоўскай культуры" з часопіса "Полымя" № 3 за 1925 год, у якім паведамлялася наступнае: "Цэнтральнае праўленне саюзу краўцоў Беларусі з вясны перайшло поўнасцю як у сваім дзелаводстве, так і ў выдачы розных масавых саюзных дакументаў на жыдоўскую мову. Аднычасова гэта мерапрыемства праводзіцца ва ўсіх гарадах Беларусі, дзе толькі існуе аддзяленне саюзу краўцоў.

Часопісь краўцоў "Чырвоная Голка" выходзіць дзесятым нумарам, стаўшы органам як краўцоў Беларусі, так і Украіны".

Тут жа паведамлялася, што "са ўсяго ліку жыдоўскіх дзяцей Беларусі звыш 47 проц. вучыцца на жыдоўскай мове... Існуюць два жыдоўскіх рабочых універсітэты — у Менску і Бабруйску, 4 школы для ўзрослых, 5 вячэрніх школ для моладзі і 90 розных гурткоў на жыдоўскай мове. Для масавай працы на жыдоўскай мове ў гарадах Беларусі прыстасавана 7 клюбаў і 30 клюбаў для кустароў. Акрамя таго, маецца 17 зьмешаных клюбаў".

# БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ: УЗЛЁТ І ПРАВАЛ

бягучай работы такіх камісій ускладалася на апараты адпаведных выканкомаў.

Менавіта толькі са стварэннем пры ЦВК БССР і выканкомах акругоў камісій па ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі ўдалося поўным ходам разгарнуць працу па ўсіх напрамках беларусізацыі, а не толькі на ніве народнай адукацыі, як гэта ў асноўным рабілася на пачатку 20-х гадоў.

### СЛУЖБОВАЕ СПРАВАВОДСТВА — ГАЛОЎНАЕ ЗВЯНО

Найважнейшым напрамкам беларусізацыі і найбольш складаным кампанентам яе з'яўлялася ўкараненне беларускай мовы ў службовае справаводства. Сусветны вопыт, у тым ліку і практыка беларускага народа, сведчыць, што без уключэння любой мовы ў службовае справаводства ў яе вельмі мала надзей на выжыванне. На момант пераходу да беларусізацыі дзяржаўнага, партыйнага, прафсаюзнага і камсамольскага апаратаў, усіх звенняў кіравання наркаматамі і ведамствамі веданне беларускай мовы ў іх работнікаў знаходзілася на крайне нізкім узроўні, бо раней ніхто з іх не вывучаў яе, набываючы прафесію ў руска- ці польскамоўных навучальных установах. Не гатовымі былі да беларусізацыі службовага справаводства і многія з тых, хто валодаў толькі навыкамі вуснай беларускай мовы. Адзіным рэальным выйсцем з гэтага становішча было прызнана паўсюднае вывучэнне яе на спецыяльна ўтвораных курсах для работнікаў такіх апаратаў. Вынікі аказаліся даволі суцяшальнымі. Сярод кіруючых кадраў, служачых канцылярый нязменна павялічвалася колькасць асоб, якія былі ў стане весці сваю работу на беларускай мове. Так, калі ў 1925 годзе ў цэнтральных (рэспубліканскіх) установах толькі 22 працэнты агульнай колькасці супрацоўнікаў валодала беларускай мовай, а ў акруговых і раённых — 36, дык ужо ў 1926 годзе адпаведна 54 і 42 працэнты. У 1927 — 80 і 70 працэнтаў. Апошнія дзве лічбы даюць падставы сцвярджаць, што вызначаны ў 1924 годзе другой сесіяй ЦВК БССР тэрміны беларусізацыі дзяржаўнага апарату, наркаматаў і ведамстваў аказаліся зусім рэальнымі, у асноўным вытрымліваліся. Аналізуючы вышэйпрыведзеныя лічбы, бачым: калі на пачатку беларусізацыі службоўцы апарату цэнтральных (рэспубліканскіх) устаноў істотна адставалі ад сваіх калег з акруговых і раённых звенняў у веданні мовы карэннага насельніцтва БССР, дык ужо праз два гады яны выйшлі наперад, што можа разглядацца як доказ сур'ёзнага падыходу вышэйшых органаў улады і кіраўніцтва рэспублікі да вырашэння гэтай лёсавызначальнай для беларускай нацыі праблемы.

Працяг.
Пачатак у № 14.

лектапагічнай камісіяй Інбелкульта (з 1926 года), знаходзячыся на пасадзе дырэктара Інстытута мовазнаўства Беларускай акадэміі навук (1931—1933). Яго праца "Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі" (1927) і да нашых дзён не страціла сваёй навуковай каштоўнасці. Пётр Бузук вядомы яшчэ пад псеўданімам П. Росіч як беларускі паэт, член літаратурнага аб'яднання "Маладняк". Багатыя лінгвістычныя веды яго вельмі спатрэбіліся ў час, калі ў рэспубліцы вялася праца па ўдакладненні правапісу і графікі беларускай мовы. Гэта толькі ў нашай антыдэмакратычнай дзяржаве за такую адданасць і актыўны ўдзел у беларускім Адраджэнні Пётр Бузук у 1931 годзе мог быць арыштаваны (трымалі пад вартай каля месяца), а ў 1934-м сасланы ў Волагду.

Амаль аналагічны лёс напаткаў гарачага прыхільніка беларусізацыі акадэміка АН БССР Івана Замоціна, рускага па паходжанні (родам з Цвярской губерні). На Беларусь ён прыехаў у 1922 годзе, будучы ўжо доктарам філалагічных навук і ў званні прафесара. На такую пасаду залічылі яго і ў БДУ, а праз два гады па сумяшчэнні стаў працаваць у Інбелкульце. У 1931 годзе Іван Замоцін — дырэктар Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР. У яго працах знайшлі глыбокае і аб'ектыўнае асвятленне многія актуальныя пытанні беларускага літаратуразнаўства. Пры ўсёй службовай занятасці ён знаходзіў час для рэгулярных публічных выступленняў перад самымі рознымі аўдыторыямі па праблемах беларускай культуры і літаратуры.

Вядомыя выпадкі паважлівага стаўлення да нашага нацыянальнага Адраджэння і з боку вучоных небеларускага паходжання, якія працавалі ў галіне прыродазнаўчых, фізіка-тэхнічных, матэматычных навук. У такіх выпадках патрабавалася значна больш намаганняў і часу, каб інтэгравацца ў беларускую культуру, авалодаць беларускай мовай. Гэтых цяжкасцей зусім не спужаўся ўраджэнец Ніжагародскай губерні Мікалай Прыляжаеў, які з 1924 года пачаў працаваць прафесарам у БДУ. У адрозненне ад некаторых сваіх калег, што ў штыкі сустракалі беларусізацыю, падбухторвалі супраць яе студэнтаў, Мікалай Прыляжаеў, маючы на той час за плячыма больш за пяць дзесяткаў гадоў, засеў за вывучэнне беларускай мовы і пачаў адным з першых на універсітэце чытаць на ёй курс арганічнай хіміі. У 1940 годзе М. Прыляжаеву было нададзена званне акадэміка АН БССР. І гэта далёка не поўны пералік небеларусаў, што актыўна ўдзельнічалі ў нацыянальна-культурным адраджэнні нашага краю. Іх пазіцыю па даным пытанні можна разглядаць як доказ, што беларусізацыя ні ў чым не пярэчыла інтарэсам тых, хто не належаў да беларускай нацыі.

### БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ І НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ МЕНШАСЦІ

Прыхільнае, за нязначным выключэннем, стаўленне прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей да беларусізацыі абавяз-

Падобнае ў жыцці нацыянальных меншасцяў Беларусі нязжкіх было б адшукаць у месцах кампактнага пражывання палякаў, літоўцаў, латышоў і інш. Адзіным, хто амаль зусім не ўключыўся ў нацыянальна-культурнае адраджэнне, былі беларускія татары. І не таму, што ў гэтым мо ім перашкаджала карэннае насельніцтва рэспублікі, а па прычыне, што сярод самых іх прадстаўнікоў не знайшлося дастаткова асобаў, якія глыбока ўсвядомілі б значэнне такога працэсу і маглі рашуча ўплываць на яго ў патрэбным напрамку. А не знайшлося таму, што вельмі глыбокія карані пусціла — і, вядома ж, не па віне беларусаў — культурна-моўная асіміляцыя гэтай этнічнай групы. Аднойчы магчымасць заявіць пра сябе адкрылася ў яе. Гэта калі першым сакратаром ЦК КП(б)Б быў згаданы вышэй Аляксандр Крыніцкі, далёкія продкі якога, беларускія татары, лічацца, жылі недалёка ад Мінска ў Крыніцах, адкуль паходзіць і іх прозвішча. Як ураджэнец горада Цвер, Аляксандр Крыніцкі мог і не ведаць пра ўсё гэта. Аднак быць катэгарычным у такім сцвярджэнні няма важкіх падстаў, бо некаторыя яго родзічы, высланыя за ўдзел у паўстанні 1863 года, не раз спрабавалі вярнуцца на Беларусь і нават некалькі гадоў жылі тут да першай сусветнай вайны, а затым яшчэ і ў 20-я гады. Але галоўнае не ў гэтым. Факт застаецца фактам, што Аляксандр Крыніцкі і пальцам не крануў, каб штосьці карыснае зрабіць для адраджэння культуры сваіх прашчураў, абуджэння этнічнай самасвядомасці ў беларускіх татараў, бо, відаць, і сам быў пазбаўлены яе. І пазней ніхто не праявіў належнай ініцыятывы ў вырашэнні татарскага пытання на Беларусі, што паспушыла прычынай для першага сакратара ЦК КП(б)Б В. Кнорына, каб заявіць: "Зусім слабая ў нас работа сярод трэцяй групы нацыянальнасцей (татары і г. д.). Трэба паставіць пытанне хаця-б аб элементарнейшым іх абслугоўваньні". На жаль, яно не было як след пастаўлена, бо неўзабаве пасля спроб гэтага партыйнага дзеяча карэнным чынам змянілася не ў лепшы бок нацыянальнае жыццё на Беларусі.

### АД САДА ДА ІНСТЫТУТА

У комплексе распрацаваных урадам і партыяй мерапрыемстваў па беларусізацыі грамадскага жыцця ў рэспубліцы першараднае значэнне надавалася сістэме народнай адукацыі, бо імі добра разумелася, што акурат ад зрухаў у данай галіне шмат у чым будзе залежаць поспех вырашэння ўсёй праблемы ў цэлым. Пасля глыбокага, удумлівага аналізу рэальнага становішча было прынята адзіна правільнае рашэнне: беларусізацыю ажыццяўляць раўналежна па ўсіх катэгорыях навучальных і выхаваўчых устаноў, г. зн. пачынаючы ад дзіцячых садоў і канчаючы тэхнікумамі і інстытутамі. Увядзенне беларускай мовы ў навучальна-выхаваўчы працэс дзвюх апошніх катэгорый устаноў практычна здымала праблему беларусізацыі ў працоўных школах, паколькі яны былі зацікаўлены навучаць дзяцей на той мове, якая з'яўлялася рабочай для тэхнікумаў і інстытутаў.

Добра прадбачачы, якія могуць быць цяжкасці на шляху беларусізацыі адукацыі, урад і партыя рэспублікі патрабавалі рацыянальнага спалучэння ў гэтай справе адміністрацыйных метадаў з глыбокай растлумачальнай работай у масах аб ролі моў у лёсе кожнага народа.

**Леанід ЛЫЧ.**

# МЯЖА ЯК ДЗІРАВАЯ КІШЭНЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Што тычыцца пабораў і рэкету на мяжы, то, як сказаў наменсік камандуючага пагранічнымі войскамі Рэспублікі Беларусь Мікалай Кохан, тут ёсць і доля віны саміх пацярпелых, якія ўспрымаюць гэта як частку падатку за перасячэнне мяжы і паведамляюць аб вымагальніцтве толькі ў крайніх выпадках. Між тым, літаральна тыдзень назад літоўская і беларуская міліцыя ў выніку сумесных дзеянняў затрымалі дваіх вымагальнікаў, якія цяпер знаходзяцца пад вартай.

Аднак кантрабанда — далёка не адзіная крыніца страт. Паколькі на беларуска-ўкраінскай мяжы практычна адсутнічаюць пагранічнікі, якія ажыццяўляюць візавы кантроль, то і купляць візу грамадзяне, якія ўязджаюць у Беларусь, лічаць неабавязковым. І праўда, навошта траціцца, калі можна праехаць і так? Так што, прыехаўшы на Украіну, грамадзяне ў абавязковым парадку ўносяць ва ўкраінскую казну 60 долараў ЗША, пасля чаго бесперашкодна перасякаюць не толькі Украіну, але і Беларусь. Асабліва сумленныя візу купляюць, але пераважная большасць ужо загадзя ў курсе, што на нашай граніцы іх вярнуць не будуць, таму што ў беларускіх пагранічнікаў проста няма сродкаў, каб кантраляваць асноўныя пасажырскія патокі. Дакладна такая ж сітуацыя і на граніцы з Расіяй. Між тым, Беларусь з'яўляецца транзітнай дзяржавай, і штодзённа нашу мяжу перасякае каля ста тысяч чалавек. Страчваць такую крыніцу даходаў — недаравальная раскоша.

Сёння кантрабанду возяць прафесіяналы, тыя, хто ведае ўсе хады і выхады, мае добра арганізаваныя структуры, вопыт, практыку, метадыку, грошы. Дзяржава ж з-за сваёй беднасці і скупасці цярпіць вялікія страты. Літаральна за адзін дзень на невялікім участку ўкраінскай мяжы было затрымана больш тысячы літраў спірту, пяцьдзесят мяшкоў цукру, шмат цыгарэт. Правозы гэтыя носяць арганізаваны характар, бо існуюць падпольныя і паўпадпольныя цэхі па разліву спіртнога, і вытворчасць мае патрэбу ў рэгулярных планавых пастаўках сыравіны. Ды і чаму б не везці кантрабанду, калі згодна з нашым заканадаўствам, а дакладней, 193 артыкулам адміністрацыйнага кодэксу, "утойванне рэчаў ад таможнага афармлення альбо непаведамленне ў таможнай дэкларацыі і іншых дакументах, што падлягаюць прадстаўленню пры таможным афармленні сапраўдных даных, штрафуецца ў памеры ад адной да дзесяці мінімальных зарплат з канфіскацыяй рэчаў, якія з'яўляюцца непасрэдна прадметамі правапарушэння — і самае цікавае ў нашым гуманным заканадаўстве, — альбо без іх канфіскацыі". А цяпер уявіце, што размова ідзе аб грузе коштам чатыры мільярды рублёў... Стварaецца ўражанне, што гэты закон пісаў асабіста для сябе вопытны кантрабандыст.

Няма патрэбы яшчэ раз гаварыць аб важнасці аховы дзяржаўнай мяжы. На нашых КПП канцэнтруюцца палітычныя і эканамічныя інтарэсы і праблемы. Пакуль жа мяжа, якая прыносіць развітым краінам да 40 працэнтаў бюджэту, у нас нагадвае парваную кішэню, з якой часам высыпаецца апошняе.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## ПА ЗАЛАХ СЛУЦКАГА КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ









(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**Слуцкі музей параўнальна малады: ён створаны ў 1952 годзе. У яго экспазіцыйных залах некалькі дзесяткаў тысяч экспанатаў. Гэта прадметы з археалагічных раскопак гарадзішча каля вёскі Івань, прылады працы эпохі неаліту, бронзавага і жалезнага вякоў, этнаграфічная калекцыя, у якой сабраны прадметы побыту сялян, народнае адзенне. Асобная экспазіцыя прысвечана Слуцкай мануфактуры шаўковых паясоў, якая працавала тут у XVIII — пачатку XIX стагоддзяў. Традыцыі былых слуцкіх ткачых працягваюць майстрыхі Слуцкай фабрыкі мастацкіх вырабаў. Іх працы таксама ўпрыгожваюць стэнды краязнаўчага музея.**

**Пра мінулае горада расказваюць калекцыі манет XVII—XIX стагоддзяў, дакументы пра падзеі часоў прыгоннага права, вайну з французамі 1812 года і паўстанне Кастуся Каліноўскага. Адлюстравана дзейнасць патрыётаў у гады Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гадоў, згадваюцца пісьменнікі — ураджэнцы Случчыны: А. Васілевіч, В. Вітка, Я. Дыла, Ю. Гаўрук і іншыя, зберагаюцца карціны мастакоў С. Бакаева, М. Блішча, У. Садзіна.**

**НА ЗДЫМКАХ: будынак краязнаўчага музея ў Слуцку і экспанаты гэтага музея.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

ПРАБЛЕМЫ ВЯРТАННЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ КАШТОЎНАСЦЕЙ

# ЦІ ЁСЦЬ СЭНС ЗАЙМАЦЦА РЭСТЫТУЦЫЯЙ?

Сярод дзяржаў, якія найбольш пацярпелі ад усемагчымых грабяжоў, асобае месца займае Беларусь. У гэтым сэнсе цяжка знайсці больш прыніжаную і зняважаную краіну. Сёння на яе тэрыторыі (за выключэннем, можа быць, вельмі дробных калекцый) няма чужых каштоўнасцей, у той час як беларускія — раскіданы па ўсім свеце. Віной таму наша "выгаднае" геаграфічнае становішча. На працягу многіх стагоддзяў Беларусь служыла мостам паміж Захадам і Усходам, якія пастаянна вялі адно з адным кровапралітныя і разбуральныя войны. У выніку наша зямля, відаць, ужо не падлягае паўнацэннаму аднаўленню. Акрамя шматлікіх войнаў, былі і іншыя прычыны, па якіх беларусы страцілі свае культурныя багацці. Так ужо здарылася, што Беларусь раней уваходзіла то ў склад адных дзяржаў, то другіх. Немалыя каштоўнасці таму адсюль сцякаліся ў засекі ўладык, якія мяняліся, у выглядзе дарагіх падарункаў, з дапамогай якіх падданыя спрабавалі засведчыць глыбокую пашану да новых гаспадароў. У дадатак да гэтага з правінцыяльных беларускіх гарадоў магнаты пераязджалі ў буйныя (часцей за ўсё польскія ці расійскія) і везлі з сабой належачыя ім калекцыі рэдкіх кніг, карцін, каштоўных вырабаў.

Нямала сплыло ад нас і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Спецыяльныя экспедыцыі цэнтральных савецкіх музеяў калясілі па нацыянальных ускраінах і забіралі, як няцяжка здагадацца, не самыя горшыя экспанаты.

Было яшчэ распараджэнне Міністэрства фінансаў СССР, згодна з якім усе знойдзеныя на тэрыторыі Саюза скарбы павінны былі паступаць у агульную скарбонку. У выніку нямала беларускіх бясцэнных скарбаў асела ў Маскве.

З набыццём незалежнасці Беларусь уключылася ў агульнаеўрапейскую спрэчку аб вяртанні сваіх культурных каштоўнасцей. Праца вядзецца актыўна, тое-сёе зроблена, але наўрад ці можна будзе гэтым задаволіцца.

Літаральна праз год пасля распаду СССР у Мінску адбылася нарада лідэраў СНД, вынікам якой з'явілася падпісанне дагавора аб узаемным вяртанні культурных каштоўнасцей. Умовіліся стварыць сумесную камісію і механізм для вырашэння праблем. У прыватнасці, экспертам дазвалялася працаваць у любых музеях і архівах Садружнасці. Але, на жаль, пагадненне аказалася толькі дэманстрацыяй добрых намераў. Праз некаторы час пасля мінскай сустрэчы Вярхоўны Савет Расіі, тады яшчэ хасбулатаўскі, прыпыніў дзеянне падпісанага ў беларускай сталіцы дакумента, і з таго часу справа так і не зрушылася з мёртвага пункта.

А нядаўна Дзярждума Расіі і зусім прыняла рашэнне, якое адгукнулася скандалам ва ўсім высакародным сямействе Еўропы. Пастанова думцаў такая: усе культурныя каштоўнасці, што знаходзяцца на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі, ад гэтага моманту з'яўляюцца яе ўласнасцю...

Што тычыцца былых рэспублік СССР, то для некаторых з іх зроблена выключэнне. Беларусь, Латвія, Літва, Малдова, Украіна, Эстонія на працягу 18 месяцаў пасля прыняцця закона могуць прад'явіць свае прэтэнзіі расійскаму боку аб вяртанні тых ці іншых прадметаў культуры.

Пра якія менавіта каштоўнасці ў даным выпадку ідзе размова, дакладна невядома. Напрыклад, наша рэспубліка можа прэтэндаваць на вяртанне з Расіі наступных катэгорый культурных каштоўнасцей. Па-першае, гэта тое, што спачатку было вывезена немцамі з Беларусі ў час акупацыі, а потым часткова вернута ў СССР і пакінута на тэрыторыі цяперашняй Расійскай Федэрацыі. Па-другое, тое, што паспелі эвакуіраваць у глыб краіны да акупацыі, але не сабраліся пасля вайны вярнуць на ранейшае месца. Мабыць, можна запатрабаваць назад тыя экспанаты, за якімі пасля рэвалюцыі ганяліся члены экспедыцый цэнтральных музеяў, а таксама каштоўнасці, канфіскаваныя "дыктатурай пралетарыяту" ў тагачаснай мясцовай эліты. Калі, вядома, ад канфіскаваных рэчаў нешта засталося. Бо вядома, што на выручаныя за іх сродкі галадаючая Савецкая Расія купляла за мяжой хлеб.

Прад'явіць расійскаму боку свае прэтэнзіі адносна прадметаў культуры Беларусь, вядома, павінна. Але трэба ведаць, што менавіта патрабаваць. Скласці ж спіс каштоўнасцей, якія мы хацелі б атрымаць назад, надзвычай цяжка. Да гэтага часу для нашых экспертаў практычна закрыты доступ да музейных фондаў Расійскай Федэрацыі, дзе, несумненна, захоўваюцца многія беларускія экспанаты. У арлоўскім музеі, напрыклад, прадстаўлены беларускі жывапіс, у Санкт-Пецярбургскім музеі артылерыі і сувязі знаходзяцца старадаўнія гарматы, вывезеныя з Радзівілаўскага замка ў Нясвіжы. Варта было нашым спецыялістам у свой час указаць на гэтыя факты расійскім калегам, як беларускім экспертам сталі ствараць перашкоды ў іх рабоце па пошуку сваіх прадметаў культуры. Таму 18 месяцаў, якія расійскія дэпутаты адводзяць нам для прад'яўлення прэтэнзій, — насмешка. Такое меркаванне старшыні Камітэта Беларусі па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Дзмітрыя Бубноўскага. Ён таксама лічыць, што Маскве цяжка было б ухіліцца ад рашэння "культурнага" пытання з улікам інтарэсаў усіх краін Садружнасці, калі б не адна акалічнасць. У час неаднаразовых сустрэч экспертных камісій дзяржаў СНД, на якіх абмяркоўвалася праблема ўзаемнага вяртання культурных каштоўнасцей, высветлілася, што яна мала цікавіць азіяцкія і закаўказскія рэспублікі. Практычна адзіным сур'ёзным саюзнікам Беларусі ў даным выпадку застаецца Украіна.

Але калі з расіянамі, верагодней за ўсё, мы зможам дагаварыцца, то з Захадам будзе значна складаней. Каб вярнуць адтуль каштоўнасці, трэба даказаць, што яны менавіта нашы. Але вось якая справа. Расійскія эксперты, якія займаюцца праблемай рэстытуцыі, сутыкнуліся з фактам страшэннай безадказнасці і безгаспадарчасці. Аказваецца, нават у СССР (не гаворачы ўжо пра Беларусь) практычна не сістэматызаваліся страчаныя ў выніку вайны культурныя каштоўнасці. У 1942 годзе была створана Дзяржаўная надзвычайная камісія па ўзнаўленню нанесенага краіне ўрону нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Вядома, што сумарны ўрон культурнай спадчыне Савецкага Саюза за гады другой сусветнай вайны ацэньваецца ў 140 мільярдаў залатых рублёў у цэнах 1914 года. Было знішчана каля 3 000 старадаўніх гарадоў, разбурана і пашкоджана больш за 2 230 манастыроў і цэркваў, разрабавана звыш 420 музеяў. Па словах намесніка старшыні камітэта па культуры ў Дзярждуме РФ Мікалая Губенкі, фашысты вывезлі з тэрыторыі СССР у тысячу разоў больш каштоўнасцей, чым наша краіна — з Германіі. Таму Расія ў дыпламатычнай барацьбе з заходнімі краінамі за валоданне сусветнымі шэдэўрамі мае права паставіць сябе вельмі жорстка. Але ў адносінах з былымі рэспублікамі Саюза такая палітыка недапушчальная. З Беларуссю, як найбольш пацярпеўшай ад нямецкай агрэсіі рэспублікай, — асабліва.

Калі гаварыць аб каштоўнасці страчаных у час вайны прадметаў мастацтва, то страты нашай рэспублікі, зразумела, непараўнана меншыя, чым страты Расійскай Федэрацыі. Але параўноўваць каштоўнасць шэдэўраў — занятак няўдзячны. Як, напрыклад, можна ацаніць крыж Ефрасінні Полацкай? Гэтая рэч — бясцэнная. Пакуль не разгадана і тайна знікнення карціны невядомага мастака "Страшны суд", якая знаходзілася ў адным з беларускіх касцёлаў. Гавораць, такі твор мог стварыць толькі вялікі майстар. Беларусь страціла таксама карэліцкія габелены, немалыя калекцыі прыкладнога мастацтва і непаўторных слуцкіх паясоў.

Наша рэспубліка мае поўнае права на валоданне многімі калекцыямі Румянцаўскага музея, размешчанага ў Маскве. Справа ў тым, што ў першай палове мінулага стагоддзя гэтыя прадметы мастацтва былі сабраны М. Румянцавым на тэрыторыі Беларусі і спачатку захоўваліся ў Гомелі ў графскім палацы. Пазней вяльможа перавёз іх спачатку ў Пецярбург, потым у Маскву.

Зусім недарэчным чынам у Польшчу трапіла частка калекцыі партрэтаў Радзівілаў з Нясвіжа і Гродна. У свой час кіраўнік польскай дзяржавы Баляслаў Берут, убачыўшы гэтыя карціны, папрасіў у савецкіх сяброў аддаць іх палякам, што з лёгкасцю і было зроблена саюзным урадам, прычым без ведама беларускіх уладаў. Цяпер нашы суседзі маюць магчымасць бачыць сапраўднае мастацтва, а нам застаецца "мець асалоду" ад такой славутасці, як вуліца Берута ў Мінску.

Лёс многіх твораў мастацтва трагічны. Будучы ўкрадзенымі ці беспадстаўна ўтрымліваемымі ў якой-небудзь краіне, яны не могуць быць выстаўлены на ўсеагульны агляд. Іх звычайна спрабуюць утаіць. І горка ўсведамляць, што дзе-небудзь глыбока ў музейных фондах Германіі, Расіі ці іншых дзяржаў пыляцца і псуюцца прадметы беларускай культуры, якія не змогуць больш убачыць людзі. Нават грамадзяне тых краін, дзе гэтыя творы хаваюць. Ці не лепш проста вярнуць іх на радзіму?

**Міхаіл КАВАЛЁЎ.**
**("Советская Белоруссия", 21 сакавіка 1997 года).**



Инна (Михалина) БУЙЛО

# ПО ПРОЙДЕННЫМ ДОРОГАМ

*10 декабря 1976 г. Луговая.*

*Много лет тому назад у меня появилось желание написать историю нашей семьи. Но я все откладывала, не решалась. Боюсь, что и сейчас, когда я села писать, может получиться плохо, т. к. я никогда ничего не писала, кроме писем близким, родным. Притом за долгие годы память многое растеряла, а дневника я не вела. Но утешает то, что я для себя как бы подытоживала мою жизнь. Хочется взглянуть на пройденный путь — он был сложным для меня и моих родителей. Этот материал не будет обнародован, и это меня успокаивает. Буду об этом знать только я, может после того, как не станет меня и если уцелеет эта тетрадка — прочтут мои дети и внуки. Я думаю, они не будут строгими судьями. Постараюсь описать то, что сохранила моя память. Это скрасит мое одиночество. Три месяца тому у меня скончался муж. Я тоже малоподвижна, хожу на костылях. Вот такие обстоятельства помогли мне взяться за эту работу.*

*Итак, в путь по пройденным дорогам...*

Я очень мало знаю о своих родителях и о своем детстве. Но постараюсь вкратце написать то, что помню и знаю от родителей.

Отец, Антон Буйло, родился в Неменчино Виленской губернии от девицы Буйло, впоследствии вышедшей замуж за отца Антона—Родзевича, но он не усыновил сына, и в его паспорте стояло: "незаконнорожденный". Мама моя очень переживала за эту "позорную" надпись, но он успокаивал ее, говоря, что все философы, мудрые люди были незаконнорожденными. У Родзевичей рождались еще дети, и они уже были законными. Знаю, что был у отца брат Бенедикт Родзевич, которого очень любил мой отец. Дом, в котором родился мой отец, был "курным", т. е. не имел трубы, и дым оседал в избе, отчего стены были черными, как ночь (об этом рассказывала наша мама). Отец мой был высокий, чуть-чуть сутулый. Он был брюнетом с очень белой кожей — на лице был легкий румянец, высокий лоб, обрамленный чуть вьющимися волосами. Нос с горбинкой, черные густые брови с изломом, карие глаза, яркие губы, черные усы и клинышком бородка. Он имел красивые руки, длинные пальцы, узкая ладонь и тонкая кисть. По характеру он был жизнерадостным, веселым, остроумным, но вспыльчивым. Но это было с ним редко. Нас, детей, он любил и никогда не наказывал. Он нигде не учился, но все умел делать. Вся мебель дома была сделана его руками, притом полированная. Он был охотник и умел делать чучела птиц, зверей, головы лося и т. д. Отец умел делать



музыкальные инструменты: гитары, мандолины и балалайки, и у нас был свой оркестр.

Мама родилась в Шавлях, ее фамилия девичья была Бусел, родители ее были бедные, она имела неплохой голос и пела в костеле. О ней даже писали в газетах как о лучшей певице. Ксендз помог ей учиться шитью, и она работала у помещиков швеей. Она была маленького роста, с хорошей фигурой, блондинка с зелеными глазами, от природы одарена незаурядным умом, но тоже нигде не училась. Характером была вспыльчивая, строгая, не любила шутить, нас, детей, держала в строгости, часто наказывала, и мы ее боялись. Она не была ласковой матерью. С детства помню ласку и заботу о нас, младших детях, старшей сестры Стаси. Всего у меня было четыре сестры и два брата. Первая сестра Эмильтя умерла рано. Затем родилась Стася, после нее Констанция, за ней брат Эдя, затем сестра Ядя, но тоже умерла до года, затем родились я и брат Витя.



В памяти моей сохранилось, по рассказам мамы, что они жили в Вильно (где жили до этого — не знаю). Отец служил старшим конюхом у кн. Гагарина на бегах. Знаю, что в ту пору у родителей были Стася (которая очень болела в детстве), Констанция и Эдик. Князь иногда заходил к отцу, и ему нравился Эдик, он сажал его на колени и своим носовым платком вытирал ему нос... Жили они очень бедно, потом переехали в Молодечно к графу, кажется, Бутеневу, где был у него заповедник. Отец там оберегал лес и зверей. Затем отец переехал в Сугвозды Виленской губернии в качестве объездчика графа Плятэра (кажется), где проработал недолго и переехал в Барсуковину. Здесь уже была я и Витя, но где мы родились — не знаю. Видимо в Сугвоздах. С нашим рождением неразбериха, т. к. мы не имели метрик, они нам были не нужны, ведь мы нигде не учились, и нас, детей, это не интересовало. Словом, все в Виленской губернии. Мама нам рассказывала, где и когда каждый из нас родился, но мы не придавали этому значения, все мы были вписаны в паспорт отца, и на основании его мы получили свои паспорта. Барсуковина. Я смутно помню это место. Сколько мне было лет — не знаю. Домик на опушке леса. Отец — объездчик у графа Тышкевича. В домике были сделаны тесовые перегородки, маленькая комнатка, где мы гнездились: дети спали по двое на кровати, кое-кто на полу. Нас уже было 5 человек — Стася, Костя, Эдик, я и Витя. Дальше была узкая комнатка, где спали родители, и еще маленький зальчик и передняя, затем сени с лестницей на чердак и вход в кухню с русской печью-плитой, с лавками вдоль стены и столом. Перед домом был маленький дворик с клумбами и цветами, за домом пруд и дремучий лес — пуща. Там водились всякие звери. Был еще сарай, где стояли лошадь и корова. У отца была собака охотничья Гектор, мы очень ее любили. Мы, дети, часто просыпались от выстрелов, это отец ночью стрелял через форточку, отпугивая волков от скотного двора. Волки и лисы часто заглядывали к нам в усадьбу. Недалеко от дома протекала река. Помню, как однажды мама пошла на речку полоскать белье и взяла нас, младших. Помню, как она закричала: "Бален! Бален!", что по-русски означает шар. Мы увидели на небе большой шар, к которому была привязана шнурами четырехугольная корзина, а в ней люди, и мы услышали голос: "Какая это река?" — спрашивали маму. Она им прокричала: "Свислочь". Шар медленно проплыл над нами и скрылся за лесом. Это событие произвело сильное впечатление на маму. Она всем рассказывала об этом. Тогда это было ново, думаю, что это был август 1903 или 1904 года. Я не знаю, сколько лет мы прожили в Барсуковине. Но кое-что сохранилось до сих пор в моей памяти: первое — это лес, чудо! Сразу за нашим домиком он стоял сизой стеной. Какие громадные ели, сосны, все в нем было таинственно, загадочно. Взрослые иногда брали меня в лес, помню чудесный мох, валежник, громадные ели, мох зеленым ковром покрывал землю. И незабываемый пряный запах. Я не помню пения птиц, но сову я видела и слышала филина по ночам.

Стася, эта милая, милая родная Стася. Она была необыкновенной доброты. Средний рост, бледное округлое лицо, тонкий нос, красивые губы и зубы и густые длинные косы. У нее были карие глаза, грустные и очень добрые. Она была старшая. Мать ее не любила, и ей жилось нелегко. На нее была возложена большая часть домашних обязанностей, хотя ей в Барсуковине было лет 10—12, она уже приводила в порядок все белье нашей большой семьи. Она уже умела хорошо вышивать и вязать кружева, она всегда трудилась и, как мать, заботилась о всех нас, детях. Я не помню ласки матери, но ласку Стаси помню.

Косточка — живая, энергичная, способная, любимица матери. Она быстро и рано научилась читать, и когда приходили к отцу лесники, очень бойко читала им вслух газеты. Мама рассказывала, что однажды в момент такого ее чтения приехал к отцу еврей, который покупал у графа лес, и отец должен был ему указать участок. Услышав чтение маленькой Косточки, удивился и просил у отца отпустить с ним Косточку, говорил, что он даст ей образование. Но отец не согласился. Помню зимние вечера, когда Косточка садилась на кухне, поставив рядом корзину с картошкой и чугунок с водой. Это значит, она будет чистить картошку и рассказывать нам чудесные сказки. До сих пор помню сказку о каком-то кудеснике Нарояне, который владел эликсиром жизни. Мы, младшие, с нетерпением ждали, когда Косточка будет чистить картошку, а ее нужно было начистить много, т. к. наша семья состояла из 7 человек. Помню гадание под Новый год. Стася и Косточка мяли лист бумаги, потом сжигали и контуры ее просматривали на фоне стены, также плавили свинец, выливали его в холодную воду, и там получались причудливые фигуры. А перед Рождеством вечером стол устилали сеном, а затем белой скатертью (домотканой) и ставили постные блюда. И оплатки были — это тонкая пшеничная лепешка, их из костела давали. Мама брала оплаток, давала всем отломать по кусоч-



ку и съесть. Они очень прилипали к небу. А потом мы тянули из-под скатерти сено — у кого длиннее сенина, тот дольше жить будет. Но это все было в детстве. Все отпало в более позднем возрасте. Помню приезд графа на охоту к нам. Все мы переселились в маленькую комнату, остальное было отдано графу и его слугам. Помню, что к нам во двор привозили на санях убитых медведей и лосей, а граф, поставив ногу на убитого зверя, фотографировался. Однажды нам, детям, удалось полакомиться. Помню, как на кухне графский повар дал в кастрюльке в воде несколько сосисок, и мы с Эдиком стали ложками есть воду, но повар, увидев нашу беспомощность, вынул сосиски, а воду вылил. А потом нам дали крем, залитый вареньем. Мы не знали, как к нему приступиться, но это было вкусно.

Зимой было у нас очень глухо, мы почти не видели людей. Изредка к отцу приходили лесники, тогда Косточка читала им газету. Отец выписывал газету "Наша нива". Вот это и было главным источником знаний Стаси и Костиньки. Оттуда они научились рукоделию и полюбили чтение.

Отец был интересным и нравился женщинам. Мама очень ревновала его, и у них были частые сцены, что меня очень пугало. Хотя отец всегда клялся маме, что лучше ее он не встречал.

Однажды мама уехала в Воложин (это была зима) и обратно вернулась пешком, у нее украли лошадь с санями. Это была большая трагедия у нас в доме. Еще помнится, один случай, для меня тяжелый: на кухне стоял ткацкий станок, на котором ткала мама. Когда все ушли из кухни, мне захотелось пролезть через станок к окну. В это время со станка упала тяжелая доска и углом ударила меня по голове... Говорят, что меня нашли без чувств, с пробитым черепом. Отец, как и во всем, был силен и в медицине, он заложил мне в рану тампон с йодом, и так я долго ходила с ватой на макушке. Врачей близко не было. Отец лечил нас всех сам. Рубец остался у меня на голове до старости.

Не знаю, по какой причине отец уехал из Барсуковины в фольварк Радейково (какого графа, не помню) и взял его в аренду. Здесь я помню все лучше. Дом — ужасная развалина. Половина дома совсем отвалилась, крыша осела к земле. Мы, младшие, любили там играть в прятки. Другая половина была не лучше: ветхое крыльцо, сенцы и две комнаты, первая — длинная, узкая, с одним окном и русской печью, часть ее перегородили шкафом, за которым спали родители, другая, с двумя окнами, где жили все дети. Но крыша и потолок были настолько ветхими, что везде стояли подпорки, а в дождливую погоду дом протекал, и мы в комнате ставили ведра, тазы, куда капала вода. Надворные постройки тоже были ужасно ветхими. Однажды в мопотьбу рухнула крыша сарая. Я в это время была в сарае вместе со взрослыми, послышался треск, гул, и крыша рухнула. К счастью, осела на скирде ржи и молотилке, и мы все уцелели. Отец судился с графом, т. к. остальная рожь, придавленная крышей, погибла от сырости. Но говорят: "С богатым не судись". Граф сказал, что отец это нарочно устроил, иначе нас бы убило, а мы оказались все целы.

Это тоже было глухое место на краю леса, к нам тоже заглядывали волки. Рядом была деревня Яцково. Косточка там сдружилась с одной девочкой, которая впоследствии уехала в Америку, и Косточка написала и посвятила ей стих "Ці помніш ты?" Брат ее был студентом юридического института в Петербурге. Он часто приходил к нам, у нас собирались друзья отца. Помню, что часто пели революционные песни — "Марсельезу", "Смело, товарищи, в ногу" и другие. Мама говорила отцу в такие минуты: "Выйди во двор, посмотри, не слушает ли кто". Словом, в нашей семье был тогда революционный дух.

Отец не верил в Бога, перестал ходить в костел и исповедываться, что очень ухудшило нашу жизнь. Отца не хотели брать на работу. Он много километров исходил в поисках заработка. Иногда его не было по несколько суток. Мама сидела у окна и с нетерпением ждала его. В такие дни у нас было скудно с питанием — в основном, картошка и кислая капуста. Мы все малокровные, золотушные, не гуляли, так как не имели одежды и обуви. А отцу нелегко было найти работу с репутацией неверующего, без специальности, незаконнорожденного и обремененного большой семьей. Мы, дети, тоже чувствовали это неблагополучие в семье. И какая была радость, когда отец приходил и говорил, что нашел работу. Мы начинали укладывать свой скромный скарб. Грузили на две телеги, дети садились среди шкафа и кроватей, чтобы не упасть по дороге. У мамы были часы стенные (это ее при-



даное от ксендза), и эти часы по дороге всегда на ухабах позванивали, нас это забавляло. Мы любили переезжать из одного имения в другое.

(Працяг будзе).

**НА ЗДЫМКАХ: бацькі Настасся Францаўна і Антон Аляксандравіч БУЙЛО; Станіслава БУЙЛО — медсястра ў час першай сусветнай вайны; Канстанцыя БУЙЛО; Вітольд БУЙЛО ў 1945 годзе ў Германіі пасля вызвалення з палону.**

*У ПАМЯЦЬ АБ А. БОНЧ-АСМАЛОЎСКІМ*

# ДОМ НАД ЦІТАЎКАЙ

Цэлае стагоддзе стаіць гэты дом над Цітаўкай. Сама пабудова ў стылі класіцызму з'яўляецца помнікам архітэктуры. Цяпер тут знаходзіцца Пухавіцкі раённы краязнаўчы музей.

Вялікую каштоўнасць уяўляе сабой памяць аб чалавеку, які жыў у гэтым доме і якога з цеплынёй успамінаюць старыя жыхары Блоні і іншых навакольных вёсак. Гэта быў памешчык Анатоль Бонч-Асмалоўскі, клопатам якога стаў дабрабыт сялян, іх асвета, культура. У канцы XIX стагоддзя, дзякуючы яго намаганням, тут была пабудавана школа для сялянскіх дзяцей (разам з імі вучыліся і панскія дзеці). Да нашых дзён захаваўся сад, дзе некалі шчыраваў дыпламаваны спецыяліст Захар Іванавіч Мігуцкі.

Шматлікія матэрыялы, звязаныя з дзейнасцю вядомага рэвалюцыянера-народніка, дзеяча арганізацый "Зямля і воля" і "Чорны перадзел" А. Бонч-Асмалоўскага, сістэматызаваны і захоўваюцца ў асобным пакойчыку музея. Пазнаёміўшыся з гэтымі гістарычнымі дакументамі, фотаздымкамі, кнігамі (некаторыя знойдзены на гарышчы дома ў час яго пераабсталявання), даведваешся пра шырокае кола аднадумцаў рэвалюцыянера: А. Жалябава, М. Кібальчыча, Г. Пляханава, С. Пяроўскую, В. Фігнер і іншых. Разам з жонкай В. Вахоўскай і сынамі ён у Блоні арганізаваў гурток самаадукацыі сялян, за што царскімі ўладамі быў сасланы ў Сібір. Ён актыўны ўдзельнік рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, быў асабіста знаёмы з класікам беларускай літаратуры Якубам Коласам — разам сядзелі ў мінскім астрогу.

Цяпер панскі дом стаў раённым цэнтрам культурнай спадчыны. У музеі можна атрымаць шырокую інфармацыю аб гісторыі Пухаўшчыны, пачынаючы з далёкай даўніны да нашых дзён (дарэчы, кіламетры за чатыры ад Блоні ўстаноўлены памятны геаграфічны знак цэнтра Беларусі). Дакументы паведамляюць аб старажытных паселішчах раёна: вёсках Блонь, Дукора, Пухавічы, Турын і іншых.

Зала сялянскага побыту дае ўяўленне аб мінулым жыцці сялян нашага краю. Гаспадарчы куток пры печы, абразы ў покуці — усё, як было раней. Здзіўляюць сваёй самабытнасцю ручнікі ды тканыя паясы (іх цэлая калекцыя). Тут сапраўдныя кросны XIX стагоддзя ды калаўроты. Увогуле, прадстаўлены ўвесь працэс апрацоўкі льну. Адведзена месца гаспадару-умельцу. Шматлікія прылады і інструменты расказваюць, як мудра прыстасоўваўся чалавек да ўмоў жыцця.

Работнікі музея дырэктар А. Пpановіч, навуковыя супрацоўнікі Т. Аліпава і Л. Галеева дбайна збіраюць матэрыял аб культурным жыцці Пухаўшчыны. Багатая літаратурная спадчына нашага краю. Тут жылі і радавалі сваёй творчасцю Алесь Бачыла ды Захар Бірала, Анатоль Вольны ды Васіль Гарбацэвіч, Валянцін Мысліец ды Макар Паслядовіч, Уладзімір Хадыка ды Міхась Чарот... Да 100-годдзя з дня нараджэння Чарота створана выстава: факты з жыцця, рэдкія фотаздымкі, прыжыццёвыя выданні паэта. Адведзена месца для ўвекавечання памяці народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава, чыё імя цесна звязана з нашай старонкай. Пухаўчане ўдзячныя яму за ўклад у стварэнне музея. Рукою мясцовага мастака У. Ішуцінава з густам аформлена галерэя партрэтаў пісьменнікаў і культурных дзеячаў: К. Алексютовіча, І. Жыновіча, братоў Ельскіх з Дудзіч, І. Шацілы, Ю. Хіраскі і іншых.

Экспанаты заўсёды ў руху. Пастаянна абнаўляецца панарама партызанскай барацьбы на Пухаўшчыне. Цэлую серыю партрэтаў Герояў Савецкага Саюза, імёны якіх звязаны з вызваленнем раёна ад фашыстаў, напісала Т. Аліпава. Асабістыя рэчы, дакументы, кнігі даюць магчымасць адчуць дух продкаў.

Асобае слова трэба сказаць пра мастака Генрыха Бржазоўскага, які ў час Вялікай Айчыннай вайны, знаходзячыся ў партызанскім атрадзе імя Калініна (ён дзейнічаў у нашых лясах), са зброяй і з мальбертам у руках змагаўся з ворагам. Яго карціны — гонар музея. Па сутнасці, і музей пачаўся з іх яшчэ ў 50-я гады, калі руплівасцю дукорскіх настаўнікаў В. Свістуна і М. Страха ў школе была створана карцінная галерэя Бржазоўскага. Тады і ўзнікла думка адкрыць краязнаўчы музей. Зборам экспанатаў заняліся энтузіясты-школьнікі. Цяпер музей (ужо ў Блоні) папоўніўся новымі карцінамі Генрыха Францавіча. Побач з ім заўсёды была жонка і баявы таварыш (урач атрада) — наша зямлячка Таццяна Ігнатаўна. Зараз Бржазоўскія жывуць у Мінску. Яны наведваюць наш музей. А ўдзячныя пухаўчане з задавальненнем заходзяць у гасцёўню, дзе размешчаны творы мастака. У гэтых палотнах — часцінка жыцця народа і душэўная цеплыня Майстра.

Кожны раз, наведваючы гэты дом Памяці, адчуваеш, якая багатая наша гісторыя, якія шчырыя, цікавыя людзі жылі ў нашым краі.

**Тамара ВАЖНІК.**

# РАМАН СЕМАШКЕВІЧ ВЯРНУЎСЯ ДА НАС З НЕБЫЦЦЯ...

Яшчэ адно імя беларуса (з безлічы тых, хто ахвяраваў свой талент у дар суседняму народу) Рамана Семашкевіча вярнулася да нас нібы з небыцця. Адбылася гэтая прыемная падзея дзякуючы неверагодным намаганням жонкі нашага земляка-пакутніка — Н. Васільевай, якая збірала яго творы па крупінках на працягу шасцідзесяці год, бо больш трохсот жывапісных палотнаў мастака было канфіскавана і расцярушана НКУС падчас яго арышту ў 1937 годзе. Сабраныя творы і ўспаміны пра мастака яна змагла выдаць у выглядзе альбома "Р. Семашкевіч" праз выдавецтва "Галарт" (Масква) у 1996 годзе на сродкі Міністэрства культуры Расіі, Цэнтра падтрымкі мастацтва фонду Сораса і фонду Салжаніцына.

Нарадзіўся Р. Семашкевіч у маёнтку Лебедзева (цяпер Мінскай вобласці) 1.10.1900 года ў шматдзетнай сям'і садоўніка.

Нарэшце і сучасныя беларусы даведаюцца пра унікальную творчую спадчыну свайго забытага земляка, які ў 20—30-х гадах XX стагоддзя быў у ліку самых выдатных майстроў-наватараў пострэвалюцыйных Беларусі і Расіі.

Акрамя 115 рэпрадукцый яго жывапісных і графічных твораў, у альбоме ўспаміны блізкіх яму па мастакоўскаму крэда аднадумцаў, меркаванні пра яго творчасць калег, а таксама ацэнка яго творчасці сучаснымі рускімі дзеячамі мастацтва і культуры. Сярод іх з цікавасцю чытаецца эсэ Ю. Злотнікава і верш В. Карпуніна, напісаныя пад уражаннем ад твораў Р. Семашкевіча, выстаўленых на яго персанальных выставах у Маскве (Дзяржаўная Траццякоўская галерэя, 1991 год) і Санкт-Пецярбургу (Дзяржаўны Рускі музей, 1992 год).

Значна ўзбагачаюць уяўленне пра асобу мастака прыведзеныя ў альбоме фрагменты яго перапіскі з жонкай Надзеяй Міронаўнай. З мемуарных успамінаў і сучасных ацэнак яго творчасці перад намі паўстае постаць вялікага, з Божай ласкі мастака, значнасць творчасці якога больш дакладна ацэнена пасля мінулага паўстагоддзя.

У 1919—1924 гадах ён адначасна вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі і мастацкай школе Браніслава Тарашкевіча ў Вільні; у 1924—1927 гадах вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме на скульптурным аддзяленні; у 1927—1930 гадах — ва Усерасійскім мастацка-тэхнічным інстытуце на аддзяленні жывапісу. Жыў у Маскве. У выставах удзельнічаў з 1924 года, прымаў удзел таксама ў дзвюх беларускіх выставах (1929 і 1932 гадоў); яго персанальныя выставы былі ў 1931 годзе ў Маскве і ў 1932 годзе ў Беларусі — у Петрыкаве, Мазыры і Мінску.

Раман Семашкевіч быў расстраляны НКУС без суда і следства 22 снежня 1937 года. Пасмяротна рэабілітаваны ў 1958 годзе ў сувязі з адсутнасцю састава злачынства. Лёс яго творчай спадчыны трагічны. Месцазнаходжанне больш 300 канфіскаваных твораў невядомае. Гэты каталог — толькі мізэрная частка з яго каштоўнай спадчыны, якую яшчэ трэба шукаць.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА**

* * *

Калі зямля хіснецца пад нагамі,
Хоць думкамі спяшу туды жвавей,
Дзе роднай хаты сцены памагаюць,
Хоць там сям'я чужая ў ёй жыве.

Там за мяне і родны лес — сцяною,
Там і пагорак за мяне — гарой.
Твой вобраз, як абраз, заўжды
са мною,
Мой родны край, з табой і я герой.

### МАТЧЫНЫ ЗЁЛКІ

Збірала мама зёлкі,
Як пчолы з зёлак мёд.
І я, маленькі, пчолкай
Стараўся з ёй як мог.

Збірала мама зёлкі
Ў садах, лугах.
Падчас
Букетам у касцёл іх
Насіла асвячаць.

Збірала мама зёлкі
Ў палях, лясах
і вось
За цэлы век свой столькі
Сабрала — цэлы воз!

Каб венічкамі зёлак
Хваробы вымятаць
І гранне-спеў вясёлак
Ізноў да нас вяртаць!

І зёлкі-словы мамы
Маглі душу крануць...
...І зёлкі ёй таксама
Паклалі у труну.

І добрым знакам мілым, —
Што зноў сюды прыйшлі,
Зноў зёлкі на магіле
Ў матулі прараслі.

### ОДА КАСЕ

За коску дружна ўсе цягалі
Гарэзы ў школе хлапчукі,
Чым ёй расці дапамагалі,
Што зараз вынік вось такі:

З паднятай горда галавою
Ідзеш — адцягвае каса.
Багаты ёю, залатою,
Казаў: "Не трэба мне й пасаг".

І хоць ад нашага вяселля
Адтанцавала шмат гадоў,
Я ад касы тваёй касею,
Нібы ад хмелю, быццам дождж.

Я разлюблю цябе адразу,
Калі намер ты здзейсніш свой.
Вось паспрабуй касу абрэзаць —
Я загублю жыццё на ёй!

### КУЛЬКА

Мне шосты год няспешна йшоў,
Калі бяда ўзялася скуль тут:
Я ў скрынцы бацькавай знайшоў
Сярод цвічкоў і гаек
кульку.

Малыя ўсе такі народ:
На смак усё ім зведаць трэба.
І кульку я паклаў у рот.
І тут куды глядзела неба!!

Я раптам кульку праглынуў.
Аднак было ўсё значна горай:
Сам не адчуў я — ну і ну! —
Што кулька — ў дыхальнае горла.

І вось прастыў я, захварэў.
І стаў часцей маліцца Богу —
Ў гарачцы
прагай жыць гарэў —
Я сыпаў пацеркі, як боб той.

І прад Вялікаднем якраз
Адбыўся цуд:
Я кашляў доўга.
Як раптам кулька тая — бразь! —
З макротай разам — на падлогу.

І свята тут прыйшло да нас.
Было нам хораша ў бяседзе.
А тую кульку нейкі час
Бацькі паказвалі суседзям...

...Быў стрэл той, можа, на вайне.
Не, не забыць мне, жыў пакуль я:
Хоць не стралялі у мяне,
Насіў малы я ў лёгкіх кулю.

АМАЛЬ СТАГОДДЗЕ НАЗАД

# СПЯВАЧКА АДЭЛАІДА КАЗАКОЎСКАЯ

Збіраючы матэрыялы пра расійскіх спевакоў, якія нарадзіліся на Беларусі, я сутыкнуўся з прозвішчам Казакоўскай. Так, Адэлаіда Георгіеўна Казакоўская. Па-рознаму падаецца год яе нараджэння — 1868 альбо 1871. Затое пра месца нараджэння паўсюдна пішацца аднолькава — Віцебская губерня. Болей дакладна, на вялікі жаль, невядома. Пра паходжанне: з сям'і ваеннага.

Адмеціны творчай біяграфіі Адэлаіды Казакоўскай увогуле звычайныя для спявачкі таго часу. Сваё лірыка-драматычнае сапрана артыстка оперы, а пасля і таленавіты педагог, пачала шліфаваць у Пецярбургскай кансерваторыі (у 1888—1890 гадах). Пасля вучылася на прыватных курсах В. Палянскай. Брала ўрокі спеваў таксама ў І. Пранішнікава і ў 1896—1897 — у З. Грэнінг-Вільдэ.

Колькі слоў пра аднаго з настаўнікаў нашай зямлячкі — Пранішнікава. Ён не адразу прыйшоў на оперную сцэну. Быў марскім афіцэрам. Пасля служыў на Рыжскай мытні. І толькі потым — Пецярбургская кансерваторыя, вакальная адукацыя ў Неапалі і Мілане. У 1876—1877 гадах выступаў у Балоны, Мілане, Парме, Генуі, Фларэнцыі. У рэпертуары спевака было болей як 50 партый (з іх — 33 у замежных операх). Выступіў Іпаліт Пятровіч усяго ў 873 спектаклях. Канешне ж, павучыцца ў такога настаўніка было чаму. А яшчэ ж Пранішнікаў быў пастаноўшчыкам "Пікавай дамы" (1890, Кіеў), "Князя Ігара" (1891, Кіеў), "Майскай ночы" (1892, Масква).

У 1897 годзе шэсць месяцаў Адэлаіда Казакоўская ўдасканальвала сваё майстэрства за мяжою. У 1896—1901 гадах, а пасля з 1905 аж да 1931 года наша зямлячка з'яўлялася салісткай пецярбургска-петраградскага Марыінскага тэатра. Дэбютавала ў партыі Маргарыты ў оперы "Фаўст". Ужо адзін пералік імёнаў майстроў сцэны, поруч з якімі выступала Казакоўская, уражвае: Славін, Смірноў, Шаляпін, Стравінскі. Спявала ж яна пад кіраўніцтвам Блуменфельда, Крушэўскага, Шэнка. Увесь тагачасны цвет расійскай оперы!

Казакоўская — першая выканаўца партый Актэі, Прывіда і Гвічыолі (у оперы "Актэя"), Тэрэзы ("Апошняе спатканне"). Сярод іншых партый — Наташа ("Русалка" А. Даргамыжскага), Яраслаўна ("Князь Ігар" А. Барадзіна), Тамара ("Дэман" А. Рубінштэйна), Марыя ("Мазепа" П. Чайкоўскага), Ліза ("Пікавая дама" П. Чайкоўскага). Тагачасныя крытыкі адзначалі моцны, роўны голас, добра пастаўлены, з шырокім дыяпазонам, адметным сцэнічным тэмпераментам.

Але ж не хацелася б, каб за мітуснёй гадоў губляўся такі факт з біяграфіі нашай зямлячкі: у 1901 годзе Адэлаіда Георгіеўна гастраліравала ў Мілане, на сцэне тэатра "Ла Скала". Не хацелася б, каб у гісторыі беларускага мастацтва згубіўся і гэты факт, узрост якога — амаль стагоддзе.

Дарэчы, амаль стагоддзе пражыла і Адэлаіда Казакоўская (у яе, ураджэнкі Віцебскай губерні, між іншым, і яшчэ адно прозвішча, — па мужу Буйніцкая-Казакоўская), пайшла з жыцця напрыканцы 1959 года. Пахавана ў Ленінградзе.

Вось і ўсё, што вядома. Шкада, што вельмі і вельмі мала. У адным упэўнены: пазнак, слядоў павінна быць болей. Трэба шукаць.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## *НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА*

*Уладзімір ЛІПСКІ*

# ЯК ДА НАС ПРЫЙШЛА КНІГА




Даўным-даўно літары высякалі на камянях, выціскалі на гліняных плітах. Уяўляеце — гліняная кніга! Ці ўлезла б яна ў школьны ранец? А якім трэба быць волатам, каб насіць яе! Кожнаму вучню спатрэбіўся б грузавік.

Пазней нашы продкі пісалі на бяросце. У Егіпце выкарыстоўвалі для пісьма расліну папірус. У іншых краінах — пергамент (так называлі спецыяльна апрацаваную скуру жывёлы).

Новыя кнігі ў Кітаі пісалі на шоўку. Там жа вырабілі першую паперу. Спатрэбілася яшчэ тысяча гадоў, пакуль паперу пачалі вырабляць у Еўропе, дзе мы з вамі жывём.

Як бачыце, вельмі доўга шукалі людзі матэрыял, на якім можна было б запісваць свае думкі, вершы, казкі. Шукалі яны і сродкі, чым запісваць. Прымянялі зубіла, разец, завостраную палачку, гусінае пяро. І ўрэшце вынайшлі металічны шрыфт для друкавання кніг.

Хто ж першы надрукаваў кнігу па-беларуску? Якая яна была?

У старажытным ды слынным горадзе Полацку 6 сакавіка 1486 года ў сям'і купца Лукі Скарыны нарадзіўся сын. Назвалі яго Францішкам. Рос ён дасціпным, здольным хлопчыкам, любіў слухаць легенды, казкі. Вучыўся ў Полацку, потым паехаў у польскі горад Кракаў, паступіў ва універсітэт. З цікавасцю чытаў вучоныя кнігі. І марыў надрукаваць кнігу на роднай мове. Сваю запаветную мару здзейсніў у Празе, дзе была добра наладжана друкарская справа.

За кароткі час доктар лекарскіх навук Францыск Скарына выдаў больш за дваццаць кніг. А першая з'явілася 6 жніўня 1517 года. Гэта дата і лічыцца пачаткам кнігадрукавання на Беларусі.

Доўгі час Скарына жыў далёка ад дому. Але ў думках і душой ён заўсёды быў з Радзімай. Паслухайце, як сучасна гучаць яго шчырыя словы прызнання ў любові да роднага краю: "Як ад нараджэння звяры, што ходзяць у пустыні, ведаюць ямы свае; птушкі, што лётаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы, што плаваюць па моры і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы і падобныя ім бароняць вуллі свае, — гэтак і людзі, дзе нарадзіліся і ўскормлены ў Бога верачы, да таго месца вялікую ласку маюць".

Скарына выдаваў біблейскія кнігі. Па іх тады вучыліся. І каштоўнасць іх у тым, што ўпершыню яны з'явіліся на мове "русінаў", так даўней называлі беларусаў. Скарына шырока скарыстаў ілюстрацыі. Асобныя літары алфавіта, з якіх пачынаўся тэкст, ён упрыгожваў пэўным малюнкам, каб лягчэй запаміналіся. Каля "К" — казлянятка, каля "З" — звер, каля "Л" — лён, а да літары "Я" намаляваў свой партрэт. Кнігі свае наш славуты зямляк адрасаваў простым людзям, як ён пісаў, "людзям паспалітым на добрае навучанне".

Вось так прыйшла да нас кніга.

## ВЯЛІКОДНЫЯ ПАШТОЎКІ






**Вялікдзень — свята старажытнае і светлае. І ў гэты дзень людзі заўсёды рабілі штосьці прыемнае адзін аднаму, зычылі здароўя і шчасця. Яшчэ да рэвалюцыі вось такія паштоўкі (на здымках) на Вялікдзень слалі родным і знаёмым.**

## ГІСТОРЫЯ Ў ФІЛАТЭЛІСТЫЧНАЙ КАЛЕКЦЫІ

# ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ

Беларускай тэмай у філатэліі я захапіўся даўно. І вось ужо больш за 30 гадоў гэтая тэма — асноўная ў маёй калекцыйнай дзейнасці. Першую філатэлістычную калекцыю "Старонкі гісторыі Беларусі" — своеасаблівую "біяграфію" рэспублікі, складзеную пры дапамозе паштовых выпускаў розных краін — марак, паштовых канвертаў і картак, розных штэмпеляў — я паказаў на філатэлістычнай выставе ў Мінску ў 1969 годзе. Потым гэтая калекцыя падарожнічала па многіх філатэлістычных выставах у гарадах былога СССР і за мяжой, расказваючы пра Беларусь. Неаднаразова калекцыя "Старонкі гісторыі Беларусі" ўзнагароджвалася на гэтых выставах медалямі і прызамі. Усе гэтыя гады калекцыя папаўнялася новымі філатэлістычнымі знаходкамі, новымі паштовымі выпускамі.

Вось і нядаўна мне, як філатэлісту, пашанцавала: калекцыя папоўнілася цікавым фірменным канвертам першага легальнага беларускага выдавецкага таварыства "Загляне сонца і ў наша аконца". Гэтае выдавецкае таварыства было створана ў Пецярбургу групай перадавой беларускай інтэлігенцыі ў маі 1906 года (існавала да 1914 года). Пісьмо, пра якое ідзе размова, было адпраўлена ў маі 1909 года з Пецярбурга ў Вільню ў рэдакцыю газеты "Наша ніва". У верхняй частцы канверта надрукаваны адрас выдавецтва на беларускай мове лацінкай і кірыліцай. "Беларуская выдаўніцкая суполка. "Загляне сонца и ў нашэ ваконцэ". Пецярбург. Василіоў остроў, 4-я лин. 45, кв. 16" (напісанне, як у арыгінале). Але не толькі адрасам цікавы гэты канверт для калекцыянера, а таксама і тым, што пісьмо было накіравана ў "Нашу ніву", і тым, што адкрывае нейкую невядомую старонку ў дзейнасці выдавецтва. Па ўсім канверце нехта з работнікаў рэдакцыі газеты сінім каляровым алоўкам напісаў: "О напечат. (ании) брошюры "Як ратаваць жывёлу ад уздуцця". Мусіць, паміж рэдакцыяй "Нашай нівы" і таварыствам ішла нейкая перапіска аб выданні гэтай брашуры на сельскагаспадарчую тэму, брашуры неабходнай беларускім сялянам. Відаць, таварыства выдавала не толькі падручнікі і серыю "Беларускія песняры", але і літаратуру метадычную для сялян.


Bielaruskaja wydaŭnickaja supolka „Zahlanie sonce i ŭ naše wakonce". PIECIARBURH. Wasiloŭ ostroŭ, 4-ta linija 45, kw. 16.

Беларуская выдаўніцкая суполка „Загляне сонцэ и у нашэ ваконцэ" ПЕЦЯРБУРГ. Василіоў остроў, 4-я лин. 45, кв. 16.



Вось яшчэ некалькі цікавых знаходак для філатэлістычнай гісторыі Беларусі. Яны тычацца Беларускага таварыства па аказанню дапамогі пацярпеўшым ад вайны (маецца на ўвазе першая сусветная вайна). Цікавы канверт ад пісьма, накіраванага з Канцылярыі Савета Міністраў. (Па Камітэту для аказання часовай дапамогі пацярпеўшым ад ваенных бедстваў) на імя старшыні Беларускага таварыства дапамогі пацярпеўшым ад вайны свяшчэнніка Савіцкага. Пісьмо адпраўлена ў жніўні 1915 года з Петраграда ў Вільню. Другі дакумент — гэта рахунак Камітэту Беларускага Таварыства ў Петраградзе па аказанню дапамогі пацярпеўшым ад вайны ад А. Білевіч на аплату 127 рублёў 99 капеек. Рахунак аплачаны гербавым зборам 20 капеек у снежні 1916 года. Відаць, гэта рахунак за пражыванне некага ў інтэрнаце (у прыватнай гасцініцы), таму што ўнізе стаіць подпіс загадчыцы інтэрната Л. Дубвіновай. На жаль, ніякіх падрабязнасцей пра гэтыя дакументы сабраць не ўдалося.

Апошняя знаходка — паштовая картка, паштоўка, выдадзеная ў 1915 годзе ў выдавецтве В. Брайшара ў Берліне. На паштоўцы адлюстраваны беларускія бежанцы. Указаны дакладны адрас, дзе фатограф зняў на плёнку падводу, нагружаную небагатым скарбам: глечыкі, радзюжкі, дзіця ў кажушку і цёплай шапцы, яго бацькі — таксама ў кажухах — Брэст-Літоўск. Гэтая паштоўка была адпраўлена з Брэста ў студзені 1916 года праз палявую пошту № 191 у Багемію (Чэхаславакія), а зусім нядаўна мне яе падарыў мой знаёмы філатэліст з Прагі.




Новыя набыткі адкрыюць новыя старонкі філатэлістычнай гісторыі Беларусі.

**Леў КОЛАСАЎ.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 531. Падпісана да друку 7.4.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.